# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 47 (2293) 19 лістапада 1992 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 50 кап. (па падпісцы — 8 кап.).





**31 кастрычніка адбылося адкрыццё экспазіцыі Паўднёва-Заходняй вежы Мірскага замка. Падзея гэта вылілася ў прыгожае нацыянальнае свята і сабрала многа гасцэй. У сваім выступленні міністр замежных спраў Беларусі П. Краўчанка сказаў: «Тут адбываецца вельмі хвалюючая падзея — мы пачынаем барацьбу за адраджэнне нашай беларускай дзяржавы». Здымкі зроблены ў Міры ў час свята.**

**Працяг апавядання пра падзею чытайце на 7-й стар.**

**Янка ЗОЛАК**

## МАЦІ МАЯ — БЕЛАРУСЬ

**Белая, светлая, чыстая,
Мой галасісты жаўрук!**

**Ты—мая доля вячыстая,
Маці мая—Беларусь.**

**Летняй улевай купаная,—
Першага снегу бялей.**

**Толькі адна ты каханая,
Цэлага свету мілей.**

**Свежай расою абмытая,
Многа ты ведала й скрух.**

**Сынам сваім не забытая
Маці мая—Беларусь.**

**Доля твая не зглелая,
Ты яшчэ ўбачыш зару,**

**Светлая, чыстая, белая
Маці мая—Беларусь!**

*1985.*

**Гэта верш з нядаўна выдадзенага зборніка паэзіі беларускай эміграцыі «Туга па Радзіме», прэзентацыя якога адбылася ў Доме кнігі. Кароткая рэцэнзія на зборнік і нізка вершаў паэтаў-эмігрантаў на 6-й стар.**

**Сёлета ўпершыню за многія гады 7-е лістапада не было ўключана ў спіс свят Рэспублікі Беларусь. Але гэта не перашкодзіла прыхільнікам сацыялістычнага выбару і камуністычнага напрамку наладзіць урачыстае шэсце з плошчы Незалежнасці па праспекце Францішка Скарыны да парку імя Горкага, дзе і адбыўся мітынг, прысвечаны 75-годдзю Вялікага Кастрычніка.**

**(Матэрыял, які расказвае пра святкаванне Кастрычніка ў Мінску, змешчаны на 2-й стар.).**

### НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ І САМАСВЯДОМАСЦЬ БЕЛАРУСАЎ

# БЕЛАЯ РУКА— МАЗОЛІСТАЙ РУЦЭ

Праблема інтэлігенцыі на Беларусі доўгі час не была аб'ектам спецыяльнага навуковага даследавання з прычыны скажонага тлумачэння ў мінулыя дзесяцігоддзі самога паняцця «інтэлігенцыя», а таксама нацыянальнага руху, у якім яна адыгрывала актыўную ролю. Толькі ў апошнія гады з'явіліся працы, дзе ахарактарызавана прафесіянальная дзейнасць настаўнікаў і ўрачоў, іх удзел у грамадска-палітычным жыцці. Сацыяльная актыўнасць даследавалася ў кнігах, прысвечаных рэвалюцыйнаму руху.

На аснове сучасных даследаванняў складваецца ўяўленне, што як грамадская катэгорыя інтэлігенцыя выконвала функцыі дваякага роду. Адну з іх можна вызначыць як сацыяльную, а другую — як нацыянальную. У першым выпадку яна выяўлялася ў выкананні інтэлігенцыяй пэўных, гістарычна абумоўленых грамадскіх функцый. Апошнія звязаны ў першую чаргу не з прафесіянальнымі адрозненнямі ці асаблівасцямі разумовай працы, а з патрэбнасцямі грамадства. Гэтыя функцыі залежалі ад сацыяльна-палітычнага ладу грамадства, яго эканамічнага і культурнага ўзроўню. Яны мяняліся ў працэсе гістарычнага развіцця. Ва ўмовах Расіі, састаўной часткай якой была Беларусь, грамадскія функцыі, якія выконвала інтэлігенцыя, з аднаго боку, былі прыстасаваны да патрэб Расійскай дзяржавы і яе эканомікі і толькі ў меншай ступені адпавядалі патрэбнасцям працоўных. З другога боку, менавіта на інтэлігенцыю лажылася функцыя грамадскай барацьбы за асвету, за пераўтварэнне існаваўшага ладу.

Калі мы гаворым аб нацыянальнай функцыі інтэлігенцыі, то маем на ўвазе яе ролю ў працэсе абуджэння і развіцця нацыянальнай самасвядомасці. Гэта другая, пасля сацыяльнай, функцыя развівалася асабліва ярка і набыла вялікае значэнне ў гісторыі беларускага народа, які не меў магчымасці стварыць уласныя палітычныя і культурныя ўстановы і які, страціўшы дзяржаўную самастойнасць, вымушаны быў прыкладаць надзвычайныя намаганні, каб захаваць сваю культуру, парасткі нацыянальнай свядомасці пад прыгнётам чужых дзяржаўных арганізмаў.

Названыя вышэй дзве галіны — сацыяльная і нацыянальная — зразумела, не вычэрпваюць усіх сфер грамадскага жыцця, на якіх адбілася дзейнасць інтэлігенцыі. Але, на наш погляд, менавіта ўдзел інтэлігенцыі ў сацыяльных і нацыянальных пераўтварэннях вызначаў месца і межы яе ўплыву ў іншых галінах.

Асноўныя кадры беларускай інтэлігенцыі фарміраваліся пераважна са шляхты і сялянства. Менавіта гэтыя слаі грамадства сталі носьбітамі нацыянальнай ідэі і нашчадкамі нацыянальнай гістарычнай традыцыі, якая з'яўляецца важным фактарам распаўсюджвання нацыянальнай самасвядомасці як адной з умоў фарміравання нацыі.

Варта падкрэсліць, што да канца XIX стагоддзя шляхта істотна змянілася. Яна амаль страціла сваё палітычнае значэнне, якое мела да далучэння Беларусі да Расіі. Эканамічны стан шляхты мала адрозніваўся ад эканамічнага стану сялянства. Аднак патрэба асветы, адукацыі, цяга

**(Заканчэнне на 5-й стар.).**

НАТАТКІ З ПЛОШЧЫ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

# ЦІ ТРЭБА САРОМЕЦЦА МІНУЛАГА?

...7-га лістапада. Плошча Незалежнасці ў Мінску. Тысяч пяць прыхільнікаў сацыялістычнага выбару, людзей камуністычнага перакanання чакаюць пачатку шэсця-мітынгу. Над іх галовамі чырвоныя сцягі, партрэты правадыроў сусветнага пралетарыяту і яркія транспаранты, гучаць бравурныя маршы духавых аркестраў... Усё так, як было гадоў дзесяць назад. Хаця і не зусім.

Скажам, няма традыцыйных «працоўных рапартаў». Яны заменены іншымі: побач з лозунгамі і транспарантамі рэвалюцыйнага зместу з'явіліся новыя, накшталт: «Требуем работы», «Требуем бесплатного образования» і г. д. Спецыяльна даём на рускай мове, бо ў гэты дзень нам так і не ўдалося ўбачыць транспаранты, напісаныя па-беларуску. Нібы свята праходзіла дзесьці ў Расіі.



А ці было сёлета свята?.. Пакуль калоны няспешна рухаліся па праспекту Скарыны да парку імя Горкага, паспелі зазірнуць і на Камсамольскую, і на Леніна, і на іншыя вуліцы. Нідзе не ўбачылі ні чырвоных сцягаў, ні гірляндаў з электралямпачак — звычайны дзень беларускай сталіцы. Мінчане быццам бы забыліся, якая сёння дата: і носа не высоўвалі ў гэтае нуднае, з дажджом надвор'е. А забягаючы наперад, скажам, што ў многіх гарадах і пасёлках наогул не было ні мітынгаў, ні вечароў, прысвечаных 75-й гадавіне Вялікага Кастрычніка.

Расказваючы аб шэсці-мітынгу ў Мінску, некаторыя перыядычныя выданні паспяшаліся зрабіць абагульненне, што калоны на плошчы Незалежнасці складаліся з адных «партакратаў» і спачуваючых ім старых, што адсутнічала моладзь. Не будзем такімі катэгарычнымі. Сапраўды, у шэсці-мітынгу прынялі ўдзел ранейшыя кіраўнікі гаркома, райкомаў партыі, заводскіх арганізацый (В. Чыкін, А. Лашкевіч, Г. Капанік і інш.), прыйшло на свята нямала ветэранаў, але хапала і больш маладых.

З некаторымі ўдзельнікамі свята ў Мінску нам удалося пагутарыць. На пытанне, чаму яны шануюць Вялікі Кастрычнік, мы атрымалі і стандартныя (маўляў, рэвалюцыя 17-га года дапамагла з парабкаў выбіцца ў людзі — В. Моўчан, родам з Нясвіжчыны, зараз жыве ў Мінску, пенсіянер) і неардынарныя адказы (казалі, камунізм — гэта самы справядлівы лад, але мы пасля рэвалюцыі не змаглі «падабраць» правадыроў, верных камуністычным ідэалам кіраўнікоў партыі. — У. Несцяровіч, будаўнік, Я. Кавалёў, былы інструктар райкома партыі).

У цэлым жа ўдзельнікі адзінадушна заяўлялі, што рэвалюцыі, пражытых пад яе лозунгамі гадоў, нечага саромецца. Гіганцкія будоўлі пяцігодак, якія здзіўлялі ўвесь свет, брацкі саюз народаў розных нацыянальнасцей, перамога ў Вялікай Айчыннай вайне — усё гэта наша мінулае.

Хаця як антыаргументы можна тут успомніць сталінскія ГУЛАГі, Чарнобыль, развал эканомікі і той жа «брацкі саюз народаў».

На мітынгу ў парку Горкага прыхільнікі камуністычных поглядаў заяўлялі, што гісторыя разбярэцца, ці быў памылкай 1917 год, апраўдае рэвалюцыю. Так, гісторыя разбярэцца, спрэчкі вакол Кастрычніка яшчэ не закончаны...

**Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.**

**НА ЗДЫМКУ:** у час шэсця-мітынгу.

СУМНАЯ СТАТЫСТЫКА

## ШТО ЗАСТАНЕЦЦА ЗАЎТРА?

**Сітуацыя ў забеспячэнні насельніцтва мяснымі і малочнымі прадуктамі не паляпшаецца, а пагаршаецца. Мяса за студзень-кастрычнік гэтага года атрымана менш, чым летась, на 21,3 працэнта, мясных кансерваў на —17,8 працэнта, масла — на 28 працэнтаў, цэльнамалочнай прадукцыі — на 11,8 працэнта. Гэтыя лічбы прыводзіць Дзяржкамстат рэспублікі.**

**Працягваецца зніжэнне вытворчасці жывёлагадоўчай прадукцыі, скарачаецца пагалоўе жывёлы, падае прадукцыйнасць жывёлы.**

**За дзесяць месяцаў бягучага года вытворчасць мяса ў калгасах, саўгасах у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года знізілася на 228,6 тысячы тон (на 19 працэнтаў) і склала 992,6 тысячы тон.**

**Як перазімуем, невядома, бо гаспадаркі нарыхтавалі значна менш корму, чым летась.**

*«Я гаварыў на сесіі, што пэўныя спецслужбы імкнуцца і ставяць на мэце набыць «агентаў уплыву», і некаторыя нашы людзі трапляюць на гэтую вуду. Я ў дакладзе сказаў, што, калі трэба, назаву некаторых асоб, якія займаюцца інфармаваннем замежных дзяржаў, можа нават не ведаючы пра гэта. Магу нават паказаць адпаведныя дакументы. Я сказаў, што Вярхоўны Савет можа стварыць камісію і азнаёміцца з такімі матэрыяламі. Калі я на такое іду — значыць, сапраўды, маю нешта «ў загашніку» на сто працэнтаў і нават больш».*

*(З прэс-канферэнцыі Старшыні КДБ рэспублікі Э. ШЫРКОЎСКАГА).*

АФІЦЫЙНАЯ ХРОНІКА



**Падпісаны пратакол аб устанаўленні дыпламатычных адносін паміж Рэспублікай Беларусь і Ватыканам. Пратакол падпісалі папскі нунцый у Маскве архіепіскап Францэска КАЛАСУОНА і міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пётр КРАЎЧАНКА.**

**НА ЗДЫМКУ:** перад цырымоніяй падпісання.

СУСТРЭЧА З ЖУРНАЛІСТАМІ

## В. КЕБІЧ — ЗА ДРУЖБУ З РАСІЯЙ

**— І што б мне ні казалі, як бы мяне ні спрабавалі заблытаць, абвінаваціць у тым, што выступаю супраць дзяржаўнасці Беларусі, я яшчэ раз хачу паўтарыць: з Расіяй нам нельга псаваць адносін.**

**Гэтую пазіцыю беларускі прэм'ер выказаў перад журналістамі сталіцы, якіх чарговы раз запрасіў на сустрэчу ў Савет Міністраў рэспублікі. Сваю пазіцыю, якой прытрымліваецца нязменна і паслядоўна, В. Кебіч аргументаваў тым, што эканамічныя сувязі з Расіяй нам пакуль больш выгадныя, чым з краінамі Захаду. Расія прадае нам нафту па цане, якая складае толькі 60 працэнтаў ад сусветнай. Зразумела, мы вольныя набываць яе ў Арабскіх Эміратах, Кувейце, іншых багатых нафтай краінах, але тут ужо давялося б плаціць спаўна і выключна канверсуемай валютай, а не «драўлянымі» рублямі. А за іх мы ў Расіі набываем і шмат іншай сыравіны, газ, чорныя і каляровыя металы, золата.**

**Магчыма, з цягам часу Беларусь знойдзе іншыя крыніцы сыравіны ў іншых дзяржавах, але пакуль што з Расіяй сварыцца не варта.**

ВЫНАХОДЗІЦЬ... МАШЫНА

**Вырашыць фактычна любую невырашальную праблему, пабудаваць прагноз развіцця складаных тэхнічных сістэм, правесці вычарпальны аналіз у любой галіне тэхнікі і зрабіць макет прапануемых рашэнняў — усё гэта і многае іншае можа машына. Над стварэннем яе ўжо трэці год працуюць супрацоўнікі арганізаванай у Мінску навукова-даследчай лабараторыі. Распрацаваны імі камп'ютэрны інструмент уабраў у сябе тэорыю рашэння вынаходніцкіх задач, функцыянальна-вартасны аналіз і штучны інтэлект.**

**Гэтая машына мінчан ужо атрымала прызнанне на выстаўках у Нью-Йорку, Стакгольме, Парыжы, Лейпцыгу, Мілане, на прайшоўшай нядаўна у Мінску міжнароднай выстаўцы-сімпозіуме.**

**НА ЗДЫМКУ: інжынер лабараторыі вынаходніцкіх машын Уладзімір ШУРКО (злева) дае тлумачэнні ўдзельніку сімпозіума.**



ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

● Паводле ваеннай дактрыны, канцэпцыя якой абмяркоўваецца на цяперашняй сесіі Вярхоўнага Савета, колькасць Узброеных Сіл Беларусі павінна быць каля 110 тысяч чалавек (каля 1 працэнта насельніцтва).

● Праведзены камп'ютэрны аналіз паказаў, што на сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі ў сярэднім у галасаванні прымаюць удзел 54 працэнты дэпутатаў. Адсутнічаюць —19,5 працэнта, а не галасуюць ад агульнай колькасці — 26 працэнтаў.

● Катастрафічна памяншаецца навуковы патэнцыял Акадэміі аграрных навук рэспублікі. Адна з прычын—нізкая зарплата навуковых работнікаў: у сярэднім яна складае 2 300 рублёў у месяц. Мізэрнае і інфармацыйнае забеспячэнне. Акадэмія выпісвае ўсяго 9 замежных часопісаў: на большае няма валюты.

● Пачаліся заняткі ў міжнародным вышэйшым Сахараўскім каледжы ў Мінску. Навучальная ўстанова будзе рыхтаваць спецыялістаў па іянізуючых выпраменьваннях. У каледжы мяркуецца таксама праводзіць навуковыя даследаванні па праблемах радыяцыйных анамалій, інцыдэнтаў і катастроф, уключаючы і аварыю на Чарнобыльскай АЭС.

● Як паведаміў міністр унутраных спраў Беларусі У. Ягораў, 15 сакавіка гэтага года ў Мінску адбылася сходка зладзейскіх аўтарытэтаў з большасці гарадоў нашай рэспублікі і з многіх гарадоў былога СССР — усяго каля 120 чалавек. На банкет у матэлі было патрачана 150 тысяч рублёў.

## А ЦІ ВЕДАЛІ ВЫ?

# ЯЎРЭІ НА БЕЛАРУСІ

НЯХАЙ прабачаць мне чытачы, але на Беларусі (Вялікім княстве Літоўскім, Рускім і Жамойцкім) раней ніколі не было слова «яўрэй». Сыноў і дачок ізраілевых тут адвеку звалі жыдамі. І нічога ў гэтым абразлівага і ганебнага не было. Таксама, як і ў слове «немец», што азначае на самай справе нямы. І зваліся яны жыдамі з тых часоў, як пасяліліся на берагах Нёмана, Дзвіны, Дняпра, абедзвюх Свіслачаў, Буга, Бярэзіны, Прыпяці... І мелі гэту назву аж да 20-х гадоў нашага стагоддзя. У Заходняй Беларусі да верасня 1939 года, як і раней, пісалі і гаварылі «жыд».

Вядома, што класік беларускай літаратуры Змітрок Бядуля (сапраўднае імя Самуэль (Шмуэль) Плаўнік, сам яўрэй) напісаў кнігу «Жыды на Беларусі» (Менск, 1918 год). У другога класіка, народнага паэта Беларусі, ёсць цудоўны верш «Жыды», які заканчваецца словамі: «О слава вам, ўсебеларускія жыды!»

Каб упэўніцца яшчэ ў тым, што раней было слова жыд, дастаткова пагартаць славутую «Баркулабаўскую хроніку». Вось што, напрыклад, пішацца на адной з яе старонак: «Року 1599, месяца мая 27 дня, праве в семую суботу с полудня, у месте Боркулабове пришла до церкви боркулабовское дочка жидовки Маръямки, арендарки боркулабовское, именем Стирка. И пилне слезне упадала и просила священника боркулабовского Федора Филиповича для бога, абы была прекрещена у веру християнскую».

Як мы бачым з гэтай невялікай вытрымкі, нічога зневажальнага з ужываннем слова «жыдоўка» не лучыцца. Але што ўсё ж абазначае слова «жыд» у перакладзе на нашу мову? Бярэ яно пачатак са старажытнажыдоўскага слова «іудзей», што абазначае «хвала Богу». Відавочна, што ніякіх дрэнных адценняў у ім няма. У Гогаля, у «Тарасе Бульбе», ужываецца толькі слова «жыд». Але чамусьці ў рускай мове слова «жыд» атрымала пагардлівае адценне. Мо таму ў апошні час на Беларусі ў літаратуры, друку, на тэлебачанні і радыё з'явілася новая назва жыдоў, акрамя яўрэяў, — гябрэі. Гэта слова часта ўжывае лідэр БНФ «Адраджэнне» Зянон Пазьняк і яго прыхільнікі. Але, на мой погляд, гэта штучная назва. Мы маем свой суверэнітэт, і не трэба нам глядзець на свайго вялікага суседа, а ўжываць тое слова, якое маецца спрадвечна, — жыд.

Але, як прынята зараз, далей мы будзем пісаць слова «яўрэі». З'явіліся яны і пачалі сяліцца на нашых землях у XIV стагоддзі. Першыя гарады, якія яны «захапілі», былі Гродна і Брэст. Па часе гэта амаль супала з пасяленнем на Беларусі татараў. Як бачым, усім знайшлося месца і справа ў старажытнабеларускай дзяржаве. Традыцыйных заняткаў у яўрэяў было няшмат — гэта, як правіла, гандаль, тут ім роўных ніколі не было, і магчыма не будзе, розныя рамёствы. А яшчэ яны былі выдатнымі ліхвярамі і мянямі, заўсёды ведалі вартасць і хаджэнне грошай унутры і за межамі краіны.

І мы тут павінны ўспомніць добрым словам вялікага князя Літвы Вітаўта Вялікага. Толькі зусім нядаўна нам адкрылася, якім дарам прадбачання валодаў гэты энергічны, рашучы і мудры кіраўнік буйнейшай дзяржавы ў Еўропе, за памін душы якога і дасюль моляцца беларускія татары.

Вітаўт Вялікі яшчэ ў 1388 годзе выдаў яўрэям грамату (адна з тых, якая вядома сёння). Разумеючы сілу закона, ён імкнуўся рэгуляваць адносіны новых народаў унутры дзяржавы. У прыватнасці, у гэтай грамаце было вызначана кола пытанняў па разгляду спраў у судзе паміж хрысціянамі і яўрэямі, а таксама паміж яўрэямі. Калі ўзнікалі спрэчкі паміж яўрэямі, то яны разглядаліся ў спецыяльных яўрэйскіх судах, па яўрэйскаму справаводству.

Мудрасць Вітаўта Вялікага бачыцца і ў тым, што ён, калі так можна сказаць, нацыянальным меншасцям даў асобыя льготы. Вядома, што малога і слабога ўсе зняважыць могуць. Так, да прыкладу, хрысціянін за крымінальныя злачынствы супраць яўрэяў прысуджаўся як за злачынствы супраць шляхты.

Як адзначае вучоны-юрыст Іосіф Юхо ў сваёй кнізе «Крыніцы беларуска-літоўскага права», у Вялікім княстве Літоўскім, Рускім і Жамойцкім ваенную павіннасць неслі ўсе, незалежна ад веравызнання. Будзь гэта праваслаўныя, католікі, мусульмане (татары), пратэстанты. Адзіную льготу мелі яўрэі. Але і тут была свая асаблівасць. Калі яўрэй прымаў каталіцтва, то адразу ж аўтаматычна атрымліваў шляхецтва і станавіўся ваеннаабавязаным, нароўні з іншай шляхтай. Так што на тэрыторыі Беларусі ў гэты час яўрэі мелі такія льготы, якіх у іх не было ні ў адной іншай дзяржаве свету.

Тут трэба нагадаць і царкоўныя правілы, каб зразумець асаблівасць тых часін. Забаранялася ўступаць у шлюб хрысціянам з мусульманамі (татарамі), іудзеямі. Але калі тыя прымалі хрысціянства, то шлюб станавіўся законным.

Здаўна адзначана, што там, дзе яўрэям дадзены роўныя правы з іншымі, то там людзі жывуць лепей, больш заможна, культурна. А на Беларусі яны, акрамя гандлю, ліхвярства, рамесніцтва, займаліся арэндай, былі карчмарамі, млынарамі, бралі розныя водкупы, вучылі, лячылі... У некаторых гарадах і мястэчках Беларусі яны складалі абсалютную большасць насельніцтва.

Цікавыя звесткі пра жыццё яўрэяў можна прачытаць у кнізе В. Хілімонава «Мірскія былі». Вось што там пішацца: «Значную ролю ў мясцовым гаспадарчым жыцці адыгрывалі яўрэі, што вялі гандаль рознымі таварамі ў шырокім асартыменце. Таму ў Мір звычайна прыязджала навакольная шляхта купляць шлюбныя ўборы для сваіх дачок. Яўрэйскі кагал плаціў падаходны падатак (напрыклад, у 1717 годзе ён складаў 900 польскіх злотых). Мір быў далёка вядомы тым, што тут знаходзілася вышэйшая яўрэйская школа-ешыбот. Адкрытая яшчэ ў 1617 годзе, яна дзейнічала аж да пачатку другой сусветнай вайны. Вучылася ў ёй штогод каля 400 яўрэяў з розных краін свету. Сярод іх сустракаліся нават дактары філасофіі».

Сярод удзельнікаў беларускіх, літоўскіх, польскіх і ўкраінскіх інтэрвентаў у смутныя часы на Русі былі і яўрэі.

Дарэчы, славутым Ілжэдзмітрыем II («тушынскім злодзеем») быў яўрэй, выхадзец з Беларусі. Аб гэтым сведчыць даследаванне доктара гістарычных навук з Расіі Руслана Скрыннікава «У тыя смутныя часы». «Польскія езуіты праявілі нямала настойлівасці, каб высветліць, хто ж быў чалавек, які выдаваў сябе за ўваскрэслага «цара Дзмітрыя», — піша Скрыннікаў. — Яны сцвярджалі, што імя Дзмітрый прыняў нехта Богданка, хрышчоны яўрэй, настаўнік, які прыслужваў у доме свяшчэнніка ў Магілёве. Раманавы пасля выбрання на трон афіцыйна пацвердзілі версію аб яўрэйскім паходжанні Ілжэдзмітрыя II. Мітрапаліт Філарэт (свецкае імя Фёдар Раманаў, ён жа і бацька першага цара Міхаіла), які займаў месца патрыярха пры асобе новага самазванца, ведаў яго вельмі блізка. Захавалася польская гравюра пачатку XVII стагоддзя з партрэтам самазванца: знешнасць настаўніка з Шклова дастаткова характэрная».

Пра жыццё яўрэяў добра пачытаць кнігу Дарафея Чорнага «Клецк»: «Жыццё і быт яўрэяў у пачатку XX стагоддзя рэзка адрозніваліся ад жыцця і быту ўсяго астатняга люду, які насяляў Клецк і яго ваколіцы. Гэтыя адрозненні былі абумоўлены двума фактарамі: па-першае, усе яўрэі ў асноўным гараджане, не звязаныя з земляробствам. Гандаль і майстэрні горада, за рэдкім выключэннем, былі сканцэнтраваны ў іх руках. Па-другое, пераважная большасць яўрэяў былі веруючымі і строга захоўвалі законы іудзейскай рэлігіі, а іх прапаведнікі, равіны, вялі сярод яўрэяў своеасаблівую выхаваўчую работу, якая не садзейнічала збліжэнню нацый, а, наадварот, падзяляла іх.

Дзяцей у сям'і з ранняга ўзросту прывучалі да грошай, спосабаў іх здабывання. Некаторыя бацькі давалі сыну з 10-гадовага ўзросту грошы не для таго, каб ён іх траціў, наадварот, грошы ў яго павінны вырасці шляхам розных махінацый на рынку або сярод такіх жа падлеткаў, толькі неяўрэяў. Грашовы крэдыт сын абавязкова павінен быў вярнуць бацьку.

Ва ўсіх месцах рассялення на Беларусі яўрэі, як правіла, жылі кагаламі (абшчынамі), рэлігію вызнавалі іудаізм, а гаварылі паміж сабой на мове ідыш (старажытнаяўрэйская мова гэтага народа — іўрыт). У кагале ўсё было ўзаемазвязана: і мова, і выхаванне, і адказнасць. Усюды зайздросцяць яўрэям, як яны дружна жывуць, заўсёды напагатове прыйсці на дапамогу адзін аднаму, каб перажыць бяду, аказаць узаемадапамогу. Ці не гэтую традыцыю падмеціў у сваіх «Запісках яўрэя» Г. Багроў: «Па сэнсу Талмуда ўсе яўрэі — парука адзін за аднаго, усе яўрэі значыць — адзін і той жа чалавек і інтарэсы ў іх агульныя».

Але і ў іх асяродку былі адшчапенцы. Так, у канцы XVIII— пачатку XIX стагоддзяў жыў на Беларусі равін Менашэ Ільер, які адрозніваўся ад іншых святароў сваімі смелымі поглядамі. Для папаўнення сваіх прыродазнаўчых ведаў і крытыкі іудаізму Менашэ Ільер рашыў паехаць у Берлін. Але яўрэйскімі рэакцыянерамі ён быў па дарозе ў Нямеччыну затрыманы, падвергнуты псіхалагічнаму ўздзеянню і пагрозам расправы, вернуты на месца. Яго «ерэтычныя» кнігі яўрэйскія свяшчэннікі потым скуплялі і спальвалі на вогнішчах.

У Беларусі было некалькі цэнтраў духоўнага і культурнага жыцця яўрэйства. У Валожыне да другой сусветнай вайны была іешыва — вышэйшае яўрэйскае духоўнае вучылішча. Тут жыў і вучыўся будучы галоўны равін Ізраіля рэб Кук. З гэтым горадам звязана і імя яўрэйскага паэта Хаіма-Нахмана Бяліка, якога высока цаніў Максім Горкі. Другім такім месцам да першай сусветнай вайны было мястэчка Любавічы на Магілёўшчыне, як кажуць, гэты населены пункт вядомы ўсім яўрэям свету. Вось што піша ў газеце «Літаратура і мастацтва» ў невялічкай нататцы Алесь Бобрык з горада Бабруйска: «Паводле дадзеных 1897 года ў паселішчы жыло 1 660 яўрэяў, альбо 67,3 працэнта ад усяго насельніцтва. З прыездам у 1813 годзе ў Любавічы Дова Бера Шнэерсона, вучня славутага Ісраэля Бааль-Шэм-Това, заснавальніка хасідызму (хасідызм — гэта рух, які патрабуе разнявалення асобы, пратэстуе супраць тэакратыі і плутакратыі. — **М. М.**), мястэчка становіцца цэнтрам духоўнага і рэлігійнага жыцця ўсходнееўрапейскага яўрэйства. Разам са сваім вучнем рабі Шнэурам-Залманам з м. Ляды рабі Шнэерсон паклаў пачатак хасідскаму руху хабад, які здабыў да гэтага часу вялікі ўплыў ва ўсім яўрэйскім свеце. (...) У наш час хабад мае цэнтр і вышэйшую духоўную ўстанову ў Брукліне. Кіраўнік руху па-ранейшаму называецца Любавіцкім рэбэ».

Класік яўрэйскай літаратуры Мендэль Мойхер-Сфорым (1836—1917) нарадзіўся ў Капылі на Міншчыне. Сапраўднае імя гэтага славутага капылянінa — Якаў Шолам, гэта яго Шолам-Алейхем называў «дзядуля яўрэйскай літаратуры».

Калі я быў у Капылі, то мне там успаміналі, як гараджане ў 1936 годзе адзначалі 100-годдзе аўтара твораў «Бацькі і дзеці», «Маленькі чалавечак», «Такса», «Кляча». У горад тады прыехалі Майсей Кульбак, Ізі Харык, Кандрат Крапіва, армянскі паэт Наіры Зар'ян... У мяне ёсць аўтограф самага з самых славутых беларускіх людзей — яўрэя Заіра Азгура, які мне яго зрабіў на сваім каталогу. Я не буду тут прыводзіць і пералічваць усе тытулы гэтага незвычайна таленавітага скульптара. Але колькі шчодрасці, энергіі і моцы дала яму Беларусь, якой ён вярнуў усё гэта ўдвая-ўтрая.

Я разглядаю ілюстрацыі яшчэ аднаго сусветна вядомага чалавека з Беларусі — Марка Шагала. Народжаны ў Віцебску, ён праз усё жыццё пранёс любоў да яго, да «краіны-браначкі». Гэты горад, гэта зямля пастаянна вабіла, жывіла яго творчасць натхненнем.

У дзяцінстве я любіў чытаць кнігі Хаіма Мальцінскага (на жаль, потым яго кнігі былі забаронены), маім сябрам у Ашмянскай школе-інтэрнаце, дзе я выхоўваўся і вучыўся пасля Парэцкага дзіцячага дома, быў яўрэй Сямён Табачнікаў. А ў гады службы ў арміі сяброў-яўрэяў яшчэ пабольшала — гэта былі Браништэйн, Зільберман, Зільберштэйн, Угалеў... Служба завяршылася, а дружба яшчэ болей узмацнела.

Калі я прыязджаю ў вёску Крошын, што пад маімі Баранавічамі, то заўсёды іду да магілы бунтара, паэта, каваля-мастака Паўлюка Багрыма, а недалёка ад яе знайшоў вечны спачын Герой Сацыялістычнай Працы, заслужаны работнік сельскай гаспадаркі рэспублікі, былы старшыня мясцовага калгаса «Перамога» Абрам Мацкоўскі. Два таленты — беларус і яўрэй, два працаўнікі, два славутыя чалавекі Крошына! Да помнікаў абодвум я кладу самыя прыгожыя кветкі.

Куды ні паедзь, дзе ні прыпыніся, уся гісторыя беларускага народа звязана ў адно цэлае з яўрэямі, татарамі, рускімі, цыганамі, літоўцамі, украінцамі, палякамі... Усе радасці і беды яны прайшлі разам, і імкненні да лепшага ў іх адны і тыя ж.

**Міхаіл МАЛІНОЎСКІ.**

ПІСЬМЫ ЗБЛІЗКУ

## ВЕСТКІ СА ЖЛОБІНШЧЫНЫ

* * *

Пры Жлобінскім Свята-Троіцкім праваслаўным храме з верасня бягучага года пачала дзейнічаць нядзельная школа. Заняткі, якімі кіруе настаяцель царквы айцец Васілій Піліпенка, вядуцца ў трох узроставых групах (ад 6 да 16 гадоў). Агульная колькасць навучэнцаў складае 100 чалавек. Жадаючых займацца было ў тры разы больш, але, на жаль, наладзіць вучэбны працэс для такой колькасці дзяцей пакуль няма магчымасці.

У навучальнай праграме ўвага надаецца асновам праваслаўя, развучванню малітваў, вывучэнню старажытнаславянскай мовы, эстэтыкі.

* * *

Буйнейшае прадпрыемства Жлобіншчыны Беларускі металургічны завод належыць да ліку нямногіх прадпрыемстваў, якія могуць у сённяшніх няпростых эканамічных умовах пастаянна праяўляць клопат аб павышэнні сацыяльнай абароненасці сваіх работнікаў. Так, у верасні бягучага года тут загадам дырэктара завода ўстаноўлена даплата да тарыфаў, акладаў, здзельных заработкаў, канкрэтных сум у памеры 100 працэнтаў.

Адначасова былі ўнесены і дапаўненні ў калектыўны дагавор паміж адміністрацыяй завода і прафсаюзным камітэтам. Гэтыя дапаўненні прадугледжваюць, у прыватнасці, штомесячную выплату дапамогі на кожнае дзіця ва ўзросце да 18 гадоў па 1 000 рублёў, аказанне аднаразовай грашовай дапамогі сям'і памёршага работніка ў памеры 10 тысяч рублёў, выплату аднаразовай дапамогі сям'і загінуўшага на вытворчасці работніка ў памеры 30 тысяч рублёў на кожнага члена сям'і і пры атрыманні траўмы на вытворчасці — ад 8 да 15 тысяч рублёў на пацярпеўшага і г. д.

Такой сацыяльнай абароненасці могуць пазайздросціць не толькі на Жлобіншчыне, а і ва ўсёй Беларусі.

* * *

Жлобінскі падлеткавы цэнтр вытворчасці «Факел» БМЗ вызначаецца не толькі сваім культурным выхаваннем дзяцей, а і праяўленнем клопатаў аб умацаванні іх здароўя. Менавіта пры гэтым цэнтры ўпершыню ў Жлобіне не так даўно быў створаны спецыяльны аздараўленчы аддзел, які мае непасрэднае дачыненне да рэспубліканскіх фондаў міру і чарнобыльскага.

Па гэтых лініях толькі за прайшоўшае лета паправілі сваё здароўе ў Балгарыі 50 дзяцей, 16 чалавек ездзілі ў Ірландыю, 27 — у Польшчу. Яшчэ 26 дзяцей пабывалі ў Аўстрыі, дзе іх гасцінна сустракалі прадстаўнікі мясцовай сацыял-дэмакратычнай партыі.

* * *

Яшчэ адзін пасёлак з дваццаці катэджаў вырас нядаўна ў вёсцы Прыбудак калгаса «Звязда» Жлобінскага раёна. У асноўным тут размясціліся перасяленцы з забруджаных радыенуклідамі вёсак Веткаўскага раёна.

Навасёлы, як і многія астатнія (на Жлобіншчыне за апошнія гады быў пабудаваны не адзін пасёлак для перасяленцаў з многіх пацярпеўшых ад чарнобыльскай катастрофы раёнаў Гомельшчыны) такія ж перасяленцы, засталіся задаволенымі гасцінным прыёмам на новым месцы. Ім не толькі прадаставілі жыллё, а і ўладкавалі на працу, дапамагаюць усім, чым толькі можна.

**Матэрыял падрыхтаваў**
**Мікалай ШУКАНАЎ.**

## У ТАВАРЫСТВЕ «РАДЗІМА»



# АДКУЛЬ КАРАНІ АРГЕНЦІНСКАГА ДРЭВА?

Два месяцы таму назад мы пісалі, што на поўначы Аргенціны, сярод трапічных джунгляў, запаліў святло невялікі ачаг беларускай культуры, абшчына нашых суайчыннікаў горада Аверá. Тады мы расказвалі аб побыце на Беларусі старшыні гэтай суполкі Зяноны Саўчук. А ўжо ў кастрычніку мелі мажлівасць быць сведкамі сустрэчы ў таварыстве «Радзіма» з дэлегацыяй з таго ж горада, што ў правінцыі Місіонес, які яшчэ называюць «лясной сталіцай».

Гэты прыезд аргенцінцаў стаў вынікам жнівеньскіх дамоўленасцей З. Саўчук з таварыствам «Радзіма» і цудоўнай якасці яе характару не пакідаць на заўтра тое, што можна зрабіць зараз.

Узначаліў групу гасцей сам мэр горада Аверá Мігель Аліверас пры падтрымцы свайго ж намесніка па справах культуры Эдуарда Маралеса і актыўным удзеле астатніх 22 асоб. Пераважную большасць дэлегацыі складалі вучні прыватнага каледжа на чале з яго дырэктарам Сяргеем Чайкоўскім.

Прамаўляючы на прыёме ў таварыстве «Радзіма», кіраўнік адміністрацыі муніцыпалітэта Аверá М. Аліверас падкрэсліў:

— Наш горад многім абавязаны беларускім імігрантам. З 50 тысяч яго насельнікаў 50 працэнтаў складаюць славяне, сярод якіх прысутнічаюць і выхадцы з вашай рэспублікі.

— Магчыма не так ужо і многа людзей у нашым горадзе, хто свой род вядзе ад беларускіх каранёў, аднак духоўная повязь з беларускай зямлёй вельмі моцная. Мая бабуля, якая ніколі не была ў родным краі пасля ад'езду, вельмі плакала, выпраўляючы мяне ў дарогу. Я — скульптар і хацела б скарыстаць сваё знаходжанне на радзіме дзядоў, каб стварыць нешта мастацкае і прысвяціць яго Беларусі,— падзялілася затым сваімі намерамі Ева Акуловіч.

...Прамое кантактаванне з аргенцінскімі суайчыннікамі, з іхнімі клубамі таварыства «Радзіма» ажыццяўляла і раней. Але часцей за ўсё гэта былі адзіночныя наведванні.

Юнакі і дзяўчаты з Аргенціны за тыдзень часу пазнаёміліся са сталіцай нашай рэспублікі, гасцілі ў сярэдняй школе № 169 Заводскага раёна. Дэлегацыя была прынята ў Міністэрстве замежных спраў і Міністэрстве культуры Беларусі. Правяла перамовы аб наладжванні супрацоўніцтва з прадстаўнікамі айчыннага бізнесу, а з уладамі Баранавіч — аб неабходных захадах на шляху да параднення двух гарадоў.

Адметнасць гэтай групы, палова якой прыйшлася на выхадцаў з беларускага асяроддзя, бачна і ў тым, што пазнавальна-турыстычныя намеры, натуральнае імкненне маладога чалавека да пашырэння далягляду, набыцця новых сяброў з ліку іншаземцаў ішлі поруч з патрэбамі сям'і і сваяцтва. Прасцей кажучы, надарылася цудоўная магчымасць пабачыцца са сваякамі і блізкімі, што жывуць у Беларусі. А геаграфія «фамільных» сувязяў была прадстаўлена даволі шырока: Баранавічы, Ляхавічы, Кобрын і г. д. Не адзін раз слухала тая ж Ева Акуловіч бабульчыны ўспаміны пра тое, як сплаўлялі раней лес па шырокай рэчцы каля Ляхавіч. Што сказала б бабуля, калі б сёння ўбачыла тую рэчку, а гэта Шчара, якую яна нават у сваім узросце ў некаторых месцах лёгка пераступіла б...

Аднаўленне сямейна-роднасных адносін радуе. Ну хаця б таму, што асіміляцыя, нават у адным, асобна ўзятым гарадку Аверá, не марудзіць і не мае літасці. З якой толькі крывёй не перамешваецца беларуская. Нават з японскай. І жывое сведчанне таму — брат і сястра Рауль і Ніна Кайрыяма.

Хочацца верыць, што гэты візіт паслужыць, апрача іншага, добрым мастком для ўсталявання трывалых сувязей паміж дзвюма краінамі, Беларуссю і Аргенцінай.

**Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**

**НА ЗДЫМКУ: сустрэча ў таварыстве «Радзіма».**

# РАССТАЎЛЕНЫ КРОПКІ НАД «І»

— Можаце здзівіцца, але, на мой погляд, Вярхоўны Савет прыняў — калі не па форме, то па сутнасці — найбольш радыкальнае рашэнне адносна рэферэндуму, — заявіў у гутарцы з карэспандэнтам «Народнай газеты» Старшыня Вярхоўнага Савета рэспублікі Станіслаў Шушкевіч.— Прычым рашэнне хутчэй палітычнае, чым прававое.

Паспрабую растлумачыць сваю думку. Успомніце: аргументы Цэнтральнай выбарчай камісіі звяліся да таго, што Закон аб рэферэндуме недасканалы, і калі прытрымлівацца разважнага сэнсу, то рэферэндум трэба праводзіць. Але ж недасканаласць прававых нормаў стварыла парадаксальную сітуацыю, якая магла б сур'ёзна ўскладніць адносіны ў дзяржаве. Сапраўды, з аднаго боку, датэрміновае спыненне дзейнасці Вярхоўнага Савета Канстытуцыяй не прадугледжваецца (таму ініцыятары і бачылі адзінае выйсце ў рэферэндуме, і ў гэтым сэнсе іх аргументацыю я магу зразумець: воля народа — гэта вышэйшая воля). Але ж з іншага боку... Уявім, што адбыўся рэферэндум і большасць выказалася за тое, каб скараціць час дзейнасці цяперашняга Вярхоўнага Савета. Але ж дэпутаты маглі палічыць, што гэта толькі дарадчы рэферэндум! Надаць яму такі статус — гэта права Вярхоўнага Савета, і такога права ніхто дэпутатаў не пазбаўляў. Уяўляеце, якая магла б узнікнуць калізія?

Прынятым жа рашэннем Вярхоўны Савет добраахвотна скараціў тэрмін свайго існавання і тым самым прадэманстраваў, што ідзе насустрач людзям, ініцыятарам рэферэндуму, хоча паскорыць канстытуцыйныя пераўтварэнні.

## РЭЛІГІЯ І ПАЛІТЫКА

# ЗАКЛІКІ З АМБОНА

### СА СТАРШЫНЁЙ КАМІСІІ ПА СПРАВАХ РЭЛІГІЙ ПРЫ САВЕЦЕ МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АЛЯКСЕЕМ ЖЫЛЬСКІМ ГУТАРЫЦЬ КАРЭСПАНДЭНТ БЕЛАПАН МАРАТ УРУБЛЕЎСКІ

**— Аляксей Іванавіч, ці ўплывае рэлігія на палітычныя падзеі ў Беларусі?**

— Амаль ўсе палітычныя партыі, грамадскія арганізацыі імкнуцца прыцягнуць да саўдзелу ў ажыццяўленні сваіх праграмных мэт тую ці іншую, а калі атрымаецца, то і некалькі рэлігійных канфесій.

Не праходзіць амаль ніводнай палітычнай акцыі, дзе б не ўдзельнічалі прадстаўнікі рэлігіі. Асабліва наглядна праяўлялася гэтая тэндэнцыя ў час вялікіх палітычных кампаній: рэферэндум, выбары народных дэпутатаў.

Адбываецца палітызацыя самой Царквы. Сёння ёсць нямала свяшчэннаслужыцеляў, якія не абмяжоўваюцца пастырскай дзейнасцю, а выкарыстоўваюць сваё становішча як зручную трыбуну для выяўлення палітычных перакананняў і адпаведнай арыентацыі прыхаджан. Ксёндз Ян Матусевіч пра гэта пісаў так: «Улады недаацэньваюць... палітычнага значэння Царквы. Прыбыўшы ў любую вёску і спытаўшы думку сяльчан аб палітыцы, вы амаль заўсёды пачуеце ў адказ не ўласнае меркаванне, а тое, як гэта каменціраваў мясцовы свяшчэннік ці ксёндз у час пропаведзі ці пасля службы».

Вядома, закон аб свабодзе сумлення і рэлігійных арганізацыях прадастаўляе свяшчэннаслужыцелю як грамадзяніну права на ўдзел у палітычным жыцці, але не з амбона. Прызначэнне Царквы іншае.

Цяпер у рэспубліцы вельмі шырокае распаўсюджанне атрымала дзейнасць замежных місіянераў, закон прадугледжвае права грамадзян і рэлігійных арганізацый на групавой ці індывідуальнай аснове наладжваць і падтрымліваць міжнародныя сувязі і прамыя асабістыя кантакты. Гэтым правам шырока карыстаюцца тыя, хто выязджае за рубеж, здзяйсняе паломніцтва і запрашае з-за мяжы да сябе аднаверцаў, пастыраў, прапаведнікаў.

Многія прыезджыя місіянеры распаўсюджваюць сярод насельніцтва, асабліва моладзі, не ўласцівыя славянскім народам усходнія і нават афрыканскія рэлігіі. Нядаўна адзін малады чалавек прынёс да нас статут ахмадзійска-мусульманскай рэлігійнай абшчыны, створанай у Мінску. Статут прывезены з Нігерыі.

Яшчэ чатыры гады назад у рэспубліцы дзейнічала толькі восем рэлігійных канфесій, а цяпер іх стала больш дваццаці.

Сярод іх такія, як крышнаіты, бахаісты, дзэн-будысты, ахмадысты і інш. Для прыцягнення людзей шырока практыкуецца аказанне, перш за ўсё членам рэлігійных арганізацый, гуманітарнай дапамогі.

Дзейнасць замежных місіянераў часам суправаджаецца многімі парушэннямі дзеючага ў рэспубліцы заканадаўства: яны месяцамі жывуць без рэгістрацыі ўязных дакументаў, прадастаўлення ім пасведчання на права жыхарства. Іншы раз ім ва ўласнасць прадаюцца цэлыя сядзібы, як гэта было ў Бабруйску.

**— Аляксей Іванавіч, апошнім часам вядзецца многа размоў аб дзейнасці прадстаўнікоў польскай каталіцкай царквы на Беларусі...**

— За апошнія гады рэзка ўзрасла колькасць каталіцкіх прыходаў. Калі ў 1988 годзе іх было 121, то на першае верасня гэтага года — ужо 288. Ксяндзоў жа не хапае. У студзені 1990 года былы саюзны Савет па справах рэлігій прыняў пастанову, якая дазваляе епіскапу Т. Кандрусевічу, апостальскаму адміністратару для католікаў Беларусі, запрасіць на нейкі час з Польшчы да 50 служыцеляў Царквы. Аднак каталіцкія прыходы гэтым не задаволіліся. Веруючыя актывізавалі засылку ў Польшчу прыватных запрашэнняў ксяндзам, якія ахвотна едуць у Беларусь. На сёння з 130 ксяндзоў у касцёлах рэспублікі толькі 48 мясцовыя. Усе ж астатнія — з Польшчы. Многія з іх не абмяжоўваюцца правядзеннем богаслужэнняў у тых касцёлах, куды іх запрасілі, а імкнуцца яшчэ стварыць рэлігійныя абшчыны, павялічыць колькасць прыходаў для сябе і стварыць такім чынам «вакансіі» для запрашэння іншых. Услед за ксяндзамі едуць манашкі, вядуць актыўную работу з дзецьмі, у тым ліку ў школах. Адбываецца самая сапраўдная цапная рэакцыя. Вядома, не апошнюю ролю тут адыгрываюць матэрыяльныя стымулы.

Праблем, звязаных са знаходжаннем польскіх ксяндзоў, было б значна менш, калі б яны абмяжоўваліся душапастырскай дзейнасцю, строга прытрымліваліся законаў краіны знаходжання, паважалі мову, традыцыі яе народа. Аднак некаторыя з іх вядуць сябе па-іншаму. Так, польскі ксёндз у горадзе Шчучыне К. Вуйцяк, каб прымусіць штаб воінскай часці вызваліць займаемае ім памяшканне былога манастыра, заклікаў веруючых блакіраваць узлётна-пасадачную паласу аэрадрома.

Аналагічны прыклад у вёсцы Гальшаны: каб вывесці музей з будынка былога манастыра, ксёндз С. Бартошак разам з веруючымі пастаянна аказваў псіхалагічнае ўздзеянне на работнікаў музея. У Полацку ксёндз Я. Скенчак арганізаваў мітынг перад гарадскім Саветам з патрабаваннем перадаць Сафійскі сабор католікам, хаця яны ніякіх адносін да гэтага храма не маюць.

**— Хто ажыццяўляе кантроль за дзейнасцю прыезджых місіянераў?**

— Ажыццяўленне закона аб прававым становішчы замежных грамадзян на тэрыторыі рэспублікі ўскладзена на мясцовыя органы ўлады і органы ўнутраных спраў. Аднак, мяркуючы па падзеях, гэтым ніхто не займаецца.

**— Які ж усё-такі касцёл на Беларусі?**

— Нярэдка даводзіцца чуць, што польскі. Вядома, калі меркаваць па складу свяшчэннаслужыцеляў, мове богаслужэнняў, то гэта так. Але калі меркаваць па складу веруючых, то карціна іншая. У заходнім друку называлася лічба — да 2,5 мільёна католікаў на Беларусі, гэта значыць 25 працэнтаў насельніцтва. Паводле перапісу 1989 года, на Беларусі пражывае 418 тысяч палякаў. Калі ўлічыць, што ў гэтай колькасці не менш чвэрці дзяцей, якія яшчэ не могуць вызначыцца ў сваіх адносінах да рэлігіі, а таксама нейкая частка няверуючых, то нават пры ўмове, што ўсе астатнія спавядаюць каталіцызм, іх будзе не больш, чым католікаў-беларусаў, людзей іншых нацыянальнасцей. Акрамя таго, рымска-каталіцкі касцёл, як і іншыя хрысціянскія рэлігіі, не дзеліць веруючых па нацыянальнай прыкмеце. Таму сцвярджаць, што на Беларусі польскі касцёл і таму тут павінны служыць польскія ксяндзы, з усіх пунктаў гледжання няправільна. Такое меркаванне Савета па справах рэлігій.

**— Вядома, што ў Гродне ўжо трэці год працуе каталіцкая вышэйшая духоўная семінарыя. Але выпуск яшчэ не хутка. Якое ж выйсце?**

— Мы прапаноўвалі каталіцкім епіскапам звярнуцца ў Ватыкан, каб ён вырашыў гэтую праблему, прыслаўшы ксяндзоў на часовае служэнне з іншых краін па папярэдняй дамоўленасці з урадам Беларусі. Але час ідзе, а каталіцкія іерархіі гэтае пытанне не вырашаюць. Відаць, яны самі не вельмі зацікаўлены ў гэтым.

На чарговай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь будзе разглядацца ў другім чытанні праект закона «Аб свабодзе веравызнанняў і рэлігійных арганізацый». Спадзяёмся, што народныя дэпутаты яго прымуць. І тады ўсе, у тым ліку і пытанні, звязаныя з замежнымі свяшчэннаслужыцелямі, неабходна прыводзіць у адпаведнасць з законам.

НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ І САМАСВЯДОМАСЦЬ БЕЛАРУСАЎ

# БЕЛАЯ РУКА— МАЗОЛІСТАЙ РУЦЭ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

да культурнага жыцця ў выхадцаў з гэтага асяроддзя засталася, яна перадавалася па гістарычнай традыцыі. Таму шляхта, а яна была дэнацыяналізавана ў значна меншай ступені, чым панства, як і раней, імкнулася даць свайму новаму пакаленню адукацыю. Тым больш, што, фармальна належачы да дваранства, шляхта карысталася саслоўнымі прывілеямі, у прыватнасці правам на атрыманне адукацыі. Гэта новае пакаленне шляхты прыкметна адрознівалася ад папярэдніх. Найбольш перадавая, прагрэсіўная частка яго не мела традыцыйнай пагарды да селяніна, да простага народа, сярод якога жыла, таму і ў яе былі ўсе падставы лічыць сябе прадстаўніком гэтага народа, змагла ўсвядоміць свае задачы і абавязкі. Менавіта прадстаўнікі дробнай шляхты першымі адчулі сваю кроўную сувязь з беларускім народам, з іх пачала фарміравацца нацыянальная разначынная інтэлігенцыя. З радоў дэкласаванага дваранства выйшлі першыя беларускія рэвалюцыйныя дэмакраты, кіраўнікі паўстання 1863 года.

Непасрэдна з самых нізоў сялянскіх у нацыянальную інтэлігенцыю пачалі ўлівацца сілы на рубяжы XIX—XX стагоддзяў.

Працэс нацыянальнага ўсведамлення асабліва хутка ішоў сярод інтэлігенцыі. Паводле перапісу 1897 года, беларусамі лічылі сябе 20 працэнтаў настаўнікаў, 26 працэнтаў медыцынскіх работнікаў, 10 працэнтаў адвакатаў, 10 працэнтаў дзеячаў навукі, літаратуры і мастацтва.

Эканамічная слабасць беларускага грамадства і недастатковая развітасць яго сацыяльнай структуры, якая і пасля 1861 года заставалася дэфармаванай праз непаслядоўную ліквідацыю феадалізму, захаванне панавання буйных землеўладальнікаў і недэмакратычнага паўфеадальнага рэжыму з тыповым для яго нацыянальным прыгнётам абумовілі запаволенасць працэсу складвання эканамічнай супольнасці як адной з галоўных прыкмет нацыі. У той жа час для інтэлігенцыі як кіраўніка нацыянальнага руху самай даступнай—і доўгі час амаль адзінай—сферай дзейнасці была галіна нацыянальнай культуры.

Пры адсутнасці ў беларусаў дзяржаўнасці, самастойных форм палітычнага і эканамічнага жыцця культура выступіла як важнейшы аб'яднальны фактар, яна садзейнічала і забяспечвала захаванне этнічнай самабытнасці, вяла да абуджэння і выспявання нацыяльнай самасвядомасці.

Культура прыняла на сябе нацыянальна - кансалідацыйныя і нацыянальна-патрыятычныя функцыі.

Вядучую ролю ў культурна-нацыянальнай дзейнасці адыгрывала маладая беларуская інтэлігенцыя, нацыянальныя пачуцці якой, дзякуючы адукаванасці, былі асабліва моцныя. Аб'яднаўшы выхадцаў з розных слаёў грамадства, пераважна непрывілеяваных, цесна звязаная з дэмакратычнымі коламі, яна змагла стаць выразніцай ідэйна-эстэтычных тэндэнцый, што адлюстроўвалі ўяўленні беларускага народа, актыўна фарміравала яго нацыянальна - патрыятычную і мастацка - эстэтычную свядомасць.

Нацыянальна свядомая частка інтэлігенцыі даказвала культурную самабытнасць беларусаў і рабіла гэта не ў форме палітычных выступленняў, а шляхам нацыянальнага самавыяўлення ў навуковай і культурнай сферах. Асабліва плённай была яе дзейнасць у вывучэнні фальклору.

Беларускія інтэлігенты разглядалі народную культуру як носьбітку этнічнай, у тым ліку моўнай, своеасаблівасці народа. Ва ўмовах Беларусі да 1905 года яна з'яўлялася важнейшай, калі не адзінай сферай самастойнага грамадскага жыцця, народная культура жывіла прафесійнае мастацтва, якое нараджалася. Менавіта праз фальклор, дзе ішлі жывыя творчыя працэсы, беларусы выявілі сваю прысутнасць у еўрапейскай культуры. А народная гаворка з'явілася асноўнай крыніцай фарміравання літаратурнай мовы. На фальклорнай аснове ствараліся найбольш значныя творы ў айчыннай літаратуры і мастацтве.

Важкі ўклад у вывучэнне народнай спадчыны зрабілі такія выдатныя даследчыкі, як Е. Раманаў, Я. Карскі, М. Нікіфароўскі, М. Доўнар-Запольскі і інш. Яны разглядалі фальклорны матэрыял як крыніцу ведаў пра мінулае Бацькаўшчыны і як крыніцу моўную. Этнаграфічныя зборнікі, укладзеныя беларускімі даследчыкамі, дапамагалі вярнуць народу забытыя імёны сваіх славутых продкаў, пазнаёміць з гераічнымі старонкамі жыцця старажытнай Беларусі. Захапленне фальклорам аказала станоўчы ўплыў на фарміраванне нацыянальнай літаратуры, яе стылю. З часам многія прыхільнікі, збіральнікі народнай песні пераходзілі да самастойнай творчасці, выкарыстоўвалі народныя сюжэты. Акрамя таго, лагічным вынікам даследавання фальклорнай скарбніцы стаў рост цікавасці да роднага слова, да самавыяўлення праз родную мову.

Варта адзначыць, што зварот да фальклору трэба разглядаць як важны крок на шляху сцвярджэння нацыянальнай свядомасці, усведамлення свайго гістарычнага аблічча, месца ў свеце.

Даследаванне дасягненняў народнай культуры прыводзіла да разумення неабходнасці вывучаць гісторыю Беларусі. «Гісторыя — гэта фундамент, на каторым будуецца жыццё народа, — адзначаў беларускі гісторык В. Ластоўскі. — І нам, каб адбудаваць сваё жыццё, трэба пачаць з фундаменту, каб будынак быў моцны. А фундамент у нас важны, гісторыя наша багата...»

Адным з першых звярнуў увагу на неабходнасць вывучаць гісторыю Бацькаўшчыны Ф. Багушэвіч. Для прац па гісторыі Беларусі, створаных у пачатку XX стагоддзя Я. Карскім і В. Ластоўскім, характэрныя дзве тэмы. З аднаго боку, яны даказвалі аўтахтоннасць беларусаў на тэрыторыі, на якой яны жылі. З другога — фіксавалі ўвагу на Вялікім княстве Літоўскім, гэта значыць на тым перыядзе гісторыі беларускага народа, калі ён адыгрываў значную ролю ў гісторыі Усходняй Еўропы. Зварот да айчынных традыцый, адкрыццё старажытных вытокаў свайго народа, яго культуры надавалі нацыянальнай самасвядомасці гістарычную глыбіню. Гэтыя даследаванні можна разглядаць як люстра, у якім беларусы маглі ўбачыць сябе і якія пашыралі іх самасвядомасць.

Неабходнай перадумовай паглыблення нацыянальнай самасвядомасці была школьная адукацыя на роднай мове. Барацьба за выкладанне ў пачатковай і асабліва ў сярэдняй школе на роднай мове з'яўлялася адной з форм беларускага нацыянальнага руху.

У ліку першых паставіў пытанне аб стварэнні нацыянальнай школы Сяргей Палуян—выдатны дзеяч беларускага Адраджэння. Яго ідэі былі сугучныя ідэям членаў беларускіх таварыстваў і гурткоў, што дзейнічалі ў мясцовых настаўніцкіх семінарыях. Маладыя інтэлігенты стваралі не толькі першыя беларускамоўныя школы, але і падручнікі для іх.

Адукаваныя і патрыятычна настроеныя прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі добра разумелі, што ў новых умовах лёс народа, яго будучыня цесна звязаны з развіццём нацыянальнай школы, літаратуры і іншых галін духоўнай культуры, захаваннем роднай мовы.

Моўнае пытанне было адным з галоўных у беларускім нацыянальным руху. Яго актуальнасць была абумоўлена не толькі палітыкай нацыянальнага прыгнёту і гвалтоўнай асіміляцыяй, якую праводзілі расійскія ўлады, але перш за ўсё задачамі і патрэбнасцямі самога працэсу фарміравання беларускай нацыі і нацыянальна-вызваленчага руху ў перыяд Адраджэння. Без перабольшання можна сказаць, што моўнае пытанне—і не толькі ў сэнсе абароны і адстойвання моўных правоў, але і ў сэнсе стварэння агульнанацыянальнай літаратурнай мовы — было кардынальным пытаннем усяго беларускага Адраджэння, якое ярка праявілася ў пачатку XX стагоддзя.

Нацыянальная ідэя напаўняла ўсю культурна-асветніцкую дзейнасць інтэлігенцыі. Пасля рэвалюцыі 1905—1907, дзякуючы яе намаганням, з'явіўся прафесійны беларускі тэатр і друк. За дзесяць гадоў было выдана каля 80 кніг тыражом амаль 230 тысяч экземпляраў. Іх выпуск забяспечылі сем выдавецтваў. Важную ролю ў грамадскім і культурным жыцці Беларусі на пачатку XX стагоддзя адыграла газета «Наша ніва». Гэта выданне стала цэнтрам згуртавання свядомай беларускай інтэлігенцыі.

У адным з сваіх вершаў Ф. Багушэвіч звярнуўся да інтэлігента з заклікам падаць «белую руку» мазолістай руцэ мужыка і вывесці яго на шырокі светлы шлях, і маладая інтэлігенцыя адгукнулася на заклік дудара добрымі і шчырымі справамі. Уся яе дзейнасць была пранізана высокім патрыятызмам, садзейнічала нацыянальнаму і палітычнаму абуджэнню беларускага народа, яго згуртаванню, аказала вялікі ўплыў на духоўнае аблічча нацыі. Беларуская інтэлігенцыя выконвала ролю своеасаблівага генератара і трансфарматара новых ідэй, форм і метадаў культурнай дзейнасці.

Заслуга нацыянальна свядомых інтэлігентаў — у абагульненні, крытычнай перапрацоўцы духоўнага патэнцыялу беларускага народа, у наданні ідэям нацыянальнай самасвядомасці пэўнай палітычнай афарбоўкі, якая адпавядала настрою і інтарэсам тых слаёў, што ўзначалілі ідэйнае развіццё народа. Ад ідэй нацыянальнай самасвядомасці як этнічнага фактару рабіўся крок да ідэй нацыянальных як фактару ідэйна-палітычнага. І збіранне фальклору, якое суправаджалася не толькі апрацоўкай, але і своеасаблівым сацыяльным рэдагаваннем (гэта характэрна для творчасці пісьменнікаў), пацвярджае гэта. Беларускія інтэлігенты не прыдумвалі і не ўносілі ідэй нацыянальнай самасвядомасці «наогул». Яны выконвалі місію своеасаблівых ідэолагаў, што мелі канкрэтныя класавыя карані і гістарычныя задачы. Таму іх дзейнасць не вычэрпвала зместу этнакультурных працэсаў, тым больш не параджала іх, а ў пэўных культурна-палітычных формах аб'ектывавала ход нацыянальнай кансалідацыі, рабіла яго больш акрэсленым і суб'ектыўна ўсвядомленым. З вышыні сягонняшняга дня ўсё зробленае нешматлікай нацыянальнай інтэлігенцыяй успрымаецца са здзіўленнем і захапленнем, як сапраўдны цуд.

Беларуская інтэлігенцыя выкарыстоўвала ўсе магчымасці для абароны правоў свайго народа. У чэрвені 1908 года ў Празе адбыўся з'езд студэнтаў славянскіх краін. Ад імя беларускай студэнцкай моладзі на ім выступіў Каляда. Ён расказаў аб моцным нацыянальным уціску суайчыннікаў, у выніку чаго на яго бацькаўшчыне пануе непісьменнасць. У сувязі з выступленнем прадстаўніка Беларусі з'езд прыняў пастанову ў падтрымку права беларусаў вучыць дзяцей у школе на роднай мове. У пастанове было патрабаванне аб адкрыцці ў Вільні беларуска-літоўскага універсітэта.

У выніку актыўнай, часам самаадданай дзейнасці беларускіх пісьменнікаў, публіцыстаў, настаўнікаў нацыянальная самасвядомасць, перш за ўсё ўсведамленне сваёй нацыянальнай прыналежнасці, ахоплівала шырокія слаі насельніцтва. Так, у кастрычніку 1913 года рабочыя-беларусы Капыля звярнуліся ў Дзяржаўную думу з петыцыяй, у якой патрабавалі прызнаць родную мову і падтрымаць прашэнне аб адкрыцці на Беларусі універсітэта.

У культурным працэсе на Беларусі ў канцы XIX, і асабліва ў пачатку XX стагоддзя, адбываліся важныя змены. Выключна важным момантам было з'яўленне новых рыс у развіцці этнічнай самасвядомасці, усведамленне сябе ў гістарычным развіцці як народа. Самасвядомасць беларусаў як асобнай этнічнай супольнасці ў канцэнтраванай форме праявілася перш за ўсё ў грамадскай дзейнасці і творчасці нацыянальнай інтэлігенцыі. Характэрным вынікам гэтага быў зварот да народнай, сялянскай культуры, што, у сваю чаргу, абумовіла дэмакратызацыю грамадскай думкі і разуменне значэння нацыянальнага быцця беларускага народа.

**Уладзімір ФІЛЯКОЎ.**

ЗАПАВЕДНЫЯ МЯСЦІНЫ

# БАГАТЫРЭВІЧЫ

Нават звычайныя дарожныя паказальнікі ў гэтай гаспадарцы даволі ўдала пасуюць да славутых мясцін—вясковы селянін рукой паказвае шлях падарожніку.

Запаведнік літаратурных герояў Яна і Цэцыліі з папулярнага твора польскай пісьменніцы Элізы Ажэшка «Над Нёманам» ствараецца ў Мастоўскім раёне.

Як, бадай, у кожнай вёскі, ёсць свая гісторыя і ў вёскі Багатырэвічы. У 1887 годзе Э. Ажэшка запісала паданне аб першых жыхарах у гэтай мясцовасці. Згодна з ім, у даўнія часы, пасля таго як літвіны прынялі хрысціянскую веру, сюды ў пошуках пустыннага месца для жыцця прыйшлі з Польшчы Ян і Цэцылія. Ён быў з прасталюдзінаў, а вось жонка паходзіла з высокага роду, аднак раздзяліла з мужам лёс выгнанніка. Яны знайшлі сабе прытулак у ваколіцах цяперашняй вёскі Багатырэвічы Глядавіцкага сельсавета.

Вось як падае ў сваім рамане «Над Нёманам» польская пісьменніца Э. Ажэшка гісторыю стварэння вёскі і адказ, чаму ў большасці сваёй яе жыхары носяць прозвішча Багатырэвічаў.

«Ян і Цэцылія аблюбавалі сабе тое месца, дзе зараз стаіць помнік, а тады стаяў стары, вельмі стары дуб, якому было гадоў пад тысячу, таму што ў яго дупле можна было цэлага буйвала схаваць. Вось пад гэтым дубам яны перш за ўсё і збудавалі сабе хату, але без печы і коміна...

...Восемдзесят гадоў, а можа і больш мінула з таго дня, калі Ян і Цэцылія ўпершыню ступілі на гэтую зям-

(Заканчэнне на 8-й стар.).

## У ТАВАРЫСТВЕ «РАДЗІМА»



# АДКУЛЬ КАРАНІ АРГЕНЦІНСКАГА ДРЭВА?

Два месяцы таму назад мы пісалі, што на поўначы Аргенціны, сярод трапічных джунгляў, запаліў святло невялікі ачаг беларускай культуры, абшчына нашых суайчыннікаў горада Аверá. Тады мы расказвалі аб побыце на Беларусі старшыні гэтай суполкі Зяноны Саўчук. А ўжо ў кастрычніку мелі мажлівасць быць сведкамі сустрэчы ў таварыстве «Радзіма» з дэлегацыяй з таго ж горада, што ў правінцыі Місіонес, які яшчэ называюць «лясной сталіцай».

Гэты прыезд аргенцінцаў стаў вынікам жнівеньскіх дамоўленасцей З. Саўчук з таварыствам «Радзіма» і цудоўнай якасці яе характару не пакідаць на заўтра тое, што можна зрабіць зараз.

Узначаліў групу гасцей сам мэр горада Аверá Мігель Аліверас пры падтрымцы свайго ж намесніка па справах культуры Эдуарда Маралеса і актыўным удзеле астатніх 22 асоб. Пераважную большасць дэлегацыі складалі вучні прыватнага каледжа на чале з яго дырэктарам Сяргеем Чайкоўскім.

Прамаўляючы на прыёме ў таварыстве «Радзіма», кіраўнік адміністрацыі муніцыпалітэта Аверá М. Аліверас падкрэсліў:

— Наш горад многім абавязаны беларускім імігрантам. З 50 тысяч яго насельнікаў 50 працэнтаў складаюць славяне, сярод якіх прысутнічаюць і выхадцы з вашай рэспублікі.

— Магчыма не так ужо і многа людзей у нашым горадзе, хто свой род вядзе ад беларускіх каранёў, аднак духоўная повязь з беларускай зямлёй вельмі моцная. Мая бабуля, якая ніколі не была ў родным краі пасля ад'езду, вельмі плакала, выпраўляючы мяне ў дарогу. Я — скульптар і хацела б скарыстаць сваё знаходжанне на радзіме дзядоў, каб стварыць нешта мастацкае і прысвяціць яго Беларусі,— падзялілася затым сваімі намерамі Ева Акуловіч.

...Прамое кантактаванне з аргенцінскімі суайчыннікамі, з іхнімі клубамі таварыства «Радзіма» ажыццяўляла і раней. Але часцей за ўсё гэта былі адзіночныя наведванні.

Юнакі і дзяўчаты з Аргенціны за тыдзень часу пазнаёміліся са сталіцай нашай рэспублікі, гасцілі ў сярэдняй школе № 169 Заводскага раёна. Дэлегацыя была прынята ў Міністэрстве замежных спраў і Міністэрстве культуры Беларусі. Правяла перамовы аб наладжванні супрацоўніцтва з прадстаўнікамі айчыннага бізнесу, а з уладамі Баранавіч — аб неабходных захадах на шляху да параднення двух гарадоў.

Адметнасць гэтай групы, палова якой прыйшлася на выхадцаў з беларускага асяроддзя, бачна і ў тым, што пазнавальна-турыстычныя намеры, натуральнае імкненне маладога чалавека да пашырэння далягляду, набыцця новых сяброў з ліку іншаземцаў ішлі поруч з патрэбамі сям'і і сваяцтва. Прасцей кажучы, надарылася цудоўная магчымасць пабачыцца са сваякамі і блізкімі, што жывуць у Беларусі. А геаграфія «фамільных» сувязяў была прадстаўлена даволі шырока: Баранавічы, Ляхавічы, Кобрын і г. д. Не адзін раз слухала тая ж Ева Акуловіч бабульчыны ўспаміны пра тое, як сплаўлялі раней лес па шырокай рэчцы каля Ляхавіч. Што сказала б бабуля, калі б сёння ўбачыла тую рэчку, а гэта Шчара, якую яна нават у сваім узросце ў некаторых месцах лёгка пераступіла б...

Аднаўленне сямейна-роднасных адносін радуе. Ну хаця б таму, што асіміляцыя, нават у адным, асобна ўзятым гарадку Аверá, не марудзіць і не мае літасці. З якой толькі крывёй не перамешваецца беларуская. Нават з японскай. І жывое сведчанне таму — брат і сястра Рауль і Ніна Кайрыяма.

Хочацца верыць, што гэты візіт паслужыць, апрача іншага, добрым мастком для ўсталявання трывалых сувязей паміж дзвюма краінамі, Беларуссю і Аргенцінай.

**Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**

**НА ЗДЫМКУ: сустрэча ў таварыстве «Радзіма».**

## РАССТАЎЛЕНЫ КРОПКІ НАД «І»

— Можаце здзівіцца, але, на мой погляд, Вярхоўны Савет прыняў — калі не па форме, то па сутнасці — найбольш радыкальнае рашэнне адносна рэферэндуму, — заявіў у гутарцы з карэспандэнтам «Народнай газеты» Старшыня Вярхоўнага Савета рэспублікі Станіслаў Шушкевіч.— Прычым рашэнне хутчэй палітычнае, чым прававое.

Паспрабую растлумачыць сваю думку. Успомніце: аргументы Цэнтральнай выбарчай камісіі звяліся да таго, што Закон аб рэферэндуме недасканалы, і калі прытрымлівацца разважнага сэнсу, то рэферэндум трэба праводзіць. Але ж недасканаласць прававых нормаў стварыла парадаксальную сітуацыю, якая магла б сур'ёзна ўскладніць адносіны ў дзяржаве. Сапраўды, з аднаго боку, датэрміновае спыненне дзейнасці Вярхоўнага Савета Канстытуцыяй не прадугледжваецца (таму ініцыятары і бачылі адзінае выйсце ў рэферэндуме, і ў гэтым сэнсе іх аргументацыю я магу зразумець: воля народа — гэта вышэйшая воля). Але ж з іншага боку... Уявім, што адбыўся рэферэндум і большасць выказалася за тое, каб скараціць час дзейнасці цяперашняга Вярхоўнага Савета. Але ж дэпутаты маглі палічыць, што гэта толькі дарадчы рэферэндум! Надаць яму такі статус — гэта права Вярхоўнага Савета, і такога права ніхто дэпутатаў не пазбаўляў. Уяўляеце, якая магла б узнікнуць калізія?

Прынятым жа рашэннем Вярхоўны Савет добраахвотна скараціў тэрмін свайго існавання і тым самым прадэманстраваў, што ідзе насустрач людзям, ініцыятарам рэферэндуму, хоча паскорыць канстытуцыйныя пераўтварэнні.

## РЭЛІГІЯ І ПАЛІТЫКА

# ЗАКЛІКІ З АМБОНА

**СА СТАРШЫНЁЙ КАМІСІІ ПА СПРАВАХ РЭЛІГІЙ ПРЫ САВЕЦЕ МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АЛЯКСЕЕМ ЖЫЛЬСКІМ ГУТАРЫЦЬ КАРЭСПАНДЭНТ БЕЛАПАН МАРАТ УРУБЛЕЎСКІ**

**— Аляксей Іванавіч, ці ўплывае рэлігія на палітычныя падзеі ў Беларусі!**

— Амаль ўсе палітычныя партыі, грамадскія арганізацыі імкнуцца прыцягнуць да саўдзелу ў ажыццяўленні сваіх праграмных мэт тую ці іншую, а калі атрымаецца, то і некалькі рэлігійных канфесій.

Не праходзіць амаль ніводнай палітычнай акцыі, дзе б не ўдзельнічалі прадстаўнікі рэлігіі. Асабліва наглядна праяўлялася гэтая тэндэнцыя ў час вялікіх палітычных кампаній: рэферэндум, выбары народных дэпутатаў.

Адбываецца палітызацыя самой Царквы. Сёння ёсць нямала свяшчэннаслужыцеляў, якія не абмяжоўваюцца пастырскай дзейнасцю, а выкарыстоўваюць сваё становішча як зручную трыбуну для выяўлення палітычных перакананняў і адпаведнай арыентацыі прыхаджан. Ксёндз Ян Матусевіч пра гэта пісаў так: «Улады недаацэньваюць... палітычнага значэння Царквы. Прыбыўшы ў любую вёску і спытаўшы думку сяльчан аб палітыцы, вы амаль заўсёды пачуеце ў адказ не ўласнае меркаванне, а тое, як гэта каменціраваў мясцовы свяшчэннік ці ксёндз у час пропаведзі ці пасля службы».

Вядома, закон аб свабодзе сумлення і рэлігійных арганізацыях прадастаўляе свяшчэннаслужыцелю як грамадзяніну права на ўдзел у палітычным жыцці, але не з амбона. Прызначэнне Царквы іншае.

Цяпер у рэспубліцы вельмі шырокае распаўсюджанне атрымала дзейнасць замежных місіянераў, закон прадугледжвае права грамадзян і рэлігійных арганізацый на групавой ці індывідуальнай аснове наладжваць і падтрымліваць міжнародныя сувязі і прамыя асабістыя кантакты. Гэтым правам шырока карыстаюцца тыя, хто выязджае за рубеж, здзяйсняе паломніцтва і запрашае з-за мяжы да сябе аднаверцаў, пастыраў, прапаведнікаў.

Многія прыезджыя місіянеры распаўсюджваюць сярод насельніцтва, асабліва моладзі, не ўласцівыя славянскім народам усходнія і нават афрыканскія рэлігіі. Нядаўна адзін малады чалавек прынёс да нас статут ахмадзійска-мусульманскай рэлігійнай абшчыны, створанай у Мінску. Статут прывезены з Нігерыі.

Яшчэ чатыры гады назад у рэспубліцы дзейнічала толькі восем рэлігійных канфесій, а цяпер іх стала больш дваццаці.

Сярод іх такія, як крышнаіты, бахаісты, дзэн-будысты, ахмадысты і інш. Для прыцягнення людзей шырока практыкуецца аказанне, перш за ўсё членам рэлігійных арганізацый, гуманітарнай дапамогі.

Дзейнасць замежных місіянераў часам суправаджаецца многімі парушэннямі дзеючага ў рэспубліцы заканадаўства: яны месяцамі жывуць без рэгістрацыі ўязных дакументаў, прадастаўлення ім пасведчання на права жыхарства. Іншы раз ім ва ўласнасць прадаюцца цэлыя сядзібы, як гэта было ў Бабруйску.

**— Аляксей Іванавіч, апошнім часам вядзецца многа размоў аб дзейнасці прадстаўнікоў польскай каталіцкай царквы на Беларусі...**

— За апошнія гады рэзка ўзрасла колькасць каталіцкіх прыходаў. Калі ў 1988 годзе іх было 121, то на першае верасня гэтага года — ужо 288. Ксяндзоў жа не хапае. У студзені 1990 года былы саюзны Савет па справах рэлігій прыняў пастанову, якая дазваляе епіскапу Т. Кандрусевічу, апостальскаму адміністратару для католікаў Беларусі, запрасіць на нейкі час з Польшчы да 50 служыцеляў Царквы. Аднак каталіцкія прыходы гэтым не задаволіліся. Веруючыя актывізавалі засылку ў Польшчу прыватных запрашэнняў ксяндзам, якія ахвотна едуць у Беларусь. На сёння з 130 ксяндзоў у касцёлах рэспублікі толькі 48 мясцовыя. Усе ж астатнія — з Польшчы. Многія з іх не абмяжоўваюцца правядзеннем богаслужэнняў у тых касцёлах, куды іх запрасілі, а імкнуцца яшчэ стварыць рэлігійныя абшчыны, павялічыць колькасць прыходаў для сябе і стварыць такім чынам «вакансіі» для запрашэння іншых. Услед за ксяндзамі едуць манашкі, вядуць актыўную работу з дзецьмі, у тым ліку ў школах. Адбываецца самая сапраўдная цапная рэакцыя. Вядома, не апошнюю ролю тут адыгрываюць матэрыяльныя стымулы.

Праблем, звязаных са знаходжаннем польскіх ксяндзоў, было б значна менш, калі б яны абмяжоўваліся душапастырскай дзейнасцю, строга прытрымліваліся законаў краіны знаходжання, паважалі мову, традыцыі яе народа. Аднак некаторыя з іх вядуць сябе па-іншаму. Так, польскі ксёндз у горадзе Шчучыне К. Вуйцяк, каб прымусіць штаб воінскай часці вызваліць займаемае ім памяшканне былога манастыра, заклікаў веруючых блакіраваць узлётна-пасадачную паласу аэрадрома.

Аналагічны прыклад у вёсцы Гальшаны: каб вывесці музей з будынка былога манастыра, ксёндз С. Бартошак разам з веруючымі пастаянна аказваў псіхалагічнае ўздзеянне на работнікаў музея. У Полацку ксёндз Я. Скенчак арганізаваў мітынг перад гарадскім Саветам з патрабаваннем перадаць Сафійскі сабор католікам, хаця яны ніякіх адносін да гэтага храма не маюць.

**— Хто ажыццяўляе кантроль за дзейнасцю прыезджых місіянераў!**

— Ажыццяўленне закона аб прававым становішчы замежных грамадзян на тэрыторыі рэспублікі ўскладзена на мясцовыя органы ўлады і органы ўнутраных спраў. Аднак, мяркуючы па падзеях, гэтым ніхто не займаецца.

**— Які ж усё-такі касцёл на Беларусі!**

— Нярэдка даводзіцца чуць, што польскі. Вядома, калі меркаваць па складу свяшчэннаслужыцеляў, мове богаслужэнняў, то гэта так. Але калі меркаваць па складу веруючых, то карціна іншая. У заходнім друку называлася лічба — да 2,5 мільёна католікаў на Беларусі, гэта значыць 25 працэнтаў насельніцтва. Паводле перапісу 1989 года, на Беларусі пражывае 418 тысяч палякаў. Калі ўлічыць, што ў гэтай колькасці не менш чвэрці дзяцей, якія яшчэ не могуць вызначыцца ў сваіх адносінах да рэлігіі, а таксама нейкая частка няверуючых, то нават пры ўмове, што ўсе астатнія спавядаюць каталіцызм, іх будзе не больш, чым католікаў-беларусаў, людзей іншых нацыянальнасцей. Акрамя таго, рымска-каталіцкі касцёл, як і іншыя хрысціянскія рэлігіі, не дзеліць веруючых па нацыянальнай прыкмеце. Таму сцвярджаць, што на Беларусі польскі касцёл і таму тут павінны служыць польскія ксяндзы, з усіх пунктаў гледжання няправільна. Такое меркаванне Савета па справах рэлігій.

**— Вядома, што ў Гродне ўжо трэці год працуе каталіцкая вышэйшая духоўная семінарыя. Але выпуск яшчэ не хутка. Якое ж выйсце!**

— Мы прапаноўвалі каталіцкім епіскапам звярнуцца ў Ватыкан, каб ён вырашыў гэтую праблему, прыслаўшы ксяндзоў на часовае служэнне з іншых краін па папярэдняй дамоўленасці з урадам Беларусі. Але час ідзе, а каталіцкія іерархіі гэтае пытанне не вырашаюць. Відаць, яны самі не вельмі зацікаўлены ў гэтым.

На чарговай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь будзе разглядацца ў другім чытанні праект закона «Аб свабодзе веравызнанняў і рэлігійных арганізацый». Спадзяёмся, што народныя дэпутаты яго прымуць. І тады ўсе, у тым ліку і пытанні, звязаныя з замежнымі свяшчэннаслужыцелямі, неабходна прыводзіць у адпаведнасць з законам.

## АДНАЎЛЕННЕ АРХІТЭКТУРНАЙ СПАДЧЫНЫ

# ПЫТАННЕ ГОНАРУ НАЦЫІ

КАЖУЦЬ, банальнасць — стомленая ісціна. І таму не грэх яшчэ раз паўтарыць, што ў кожнай нацыі ёсць запаветныя мясціны, якія з'яўляюцца яе гонарам. Кожны народ мае куточкі на сваёй зямлі, якім хочацца нізка пакланіцца і падзякаваць за тое, што яны ёсць. Таму што яны — увасабленне, канцэнтрацыя гісторыі нацыі. Да такіх мясцін на Беларусі належыць Мір.

Сёння ёсць надзея. што ўсё ж Мірскі замак будзе калісьці адрэстаўрыраваны. Ва ўсякім разе ў апошнюю суботу кастрычніка адбылася прэзентацыя музейнай экспазіцыі Паўднёва-Заходняй (гарматнай) вежы Мірскага замка. Яе правёў Дзяржаўны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь і Міністэрства культуры. У вежы размешчана экспазіцыя мастацкага музея. Ёсць ужо маршрут самастойнага ўваходу на тэрыторыю замка, экскурсіі. Кожны можа наведаць Мірскі замак і яго музей.

Дзяржаўны мастацкі музей з'яўляецца заказчыкам рэстаўрацыі замка. Менавіта ён займаецца комплексам праблем па забеспячэнню бесперашкоднага правядзення работ, кантролем за якасцю працы. Работа заказчыка патрабуе шмат сіл і часта, на жаль, застаецца незаўважанай. Навуковы кіраўнік і аўтар праекта рэстаўрацыі замка — Дзмітрый Бубноўскі. У Міністэрстве культуры ён займае пасаду начальніка Дзяржаўнай інспекцыі па ахове помнікаў культуры. Наўрад ці можна знайсці больш дасведчанага чалавека па пытанню рэстаўрацыі Мірскага замка. Таму я вельмі ўдзячная Дзмітрыю Сямёнавічу за сустрэчу.

Працэдура адкрыцця першай чаргі замка, свята вакол яе, на думку майго суразмоўніка, факт другасны. «Было, канешне, прыемна назіраць за святам, якое адбывалася дзякуючы і тваёй працы. Аднак галоўнае: хоць невялічкая частка аб'екта ўведзена ва ўжытак», — кажа Д. Бубноўскі. Людзі могуць убачыць канкрэтныя вынікі работ рэстаўратараў. Частка, што прадстаўлена адной вежай, сапраўды вельмі сціплая. Яшчэ засталося адрэстаўрыраваць 4 вежы, адна з якіх амаль аднаўлена, праўда. Праводзяцца работы і ў баявых галерэях. Наперадзе вялікая праца. Я зацікавілася, чые спецыялісты рэстаўрыруюць замак. Дзмітрый Бубноўскі ўпэўнены, што ў будучыні, як і зараз, гэта павінны рабіць толькі беларускія спецыялісты.

— Аднаўленне гісторыка-культурнай спадчыны любой нацыі — справа самога народа. Гэта пытанне гонару нацыі. Аднак усім вядома. які сённяшні стан эканомікі нашай краіны. Улічваючы яго і ўзровень вытворчых магчымасцяў дзяржавы, мы з удзячнасцю ўспрымаем усякую дапамогу ў рэстаўрацыі Мірскага замка. Менавіта дапамогу, а не выкананне нашага абавязку за нас саміх.

Добра будзе, калі мы здолеем гэтую складаную працу зрабіць самі. Пры неабходнасці для работ запрашаюцца спецыялісты з малых прадпрыемстваў, кааператываў Беларусі. Калі некалькі год таму ў нашай краіне нават рэстаўрацыйнага вучылішча не існавала (быццам яго спецыялістам тут не было чаго рабіць), то сёння выпускнікі вучылішча ўжо працуюць над рэстаўрацыяй замка. Аднак ім часам не хапае вопыту. А міністэрства, нават калі б і хацела, не можа разлічваць на кагосьці іншага. У яго няма на гэта сродкаў.

У сваёй размове з Дзмітрыем Бубноўскім мы пастаянна вярталіся да прэзентацыі вежы. Там былі і замежныя госці. На жаль, многія з тых, каго запрашалі, не прыехалі. Аднак на прэзентацыі былі паслы Францыі і ЗША з аташэ па культуры, першыя сакратары пасольстваў Германіі і Польшчы. Яны з цікавасцю даведаліся, што для Беларусі характэрныя еўрапейскія хрысціянскія традыцыі. З прычыны таго, што за мяжой мала ведаюць беларускую культуру, Мірскі замак для многіх быў сапраўдным адкрыццём. Таксама неаднойчы гучала, што правядзенне рэстаўрацыйных работ і нават пэўныя поспехі ў гэтай справе ў такі пераломны момант гісторыі сведчыць пра высокі ўзровень нашага грамадства. Наўрад ці ведаюць людзі з-за мяжы, што значыць рэстаўрыраваць будынак XV—XVIII стагоддзяў у 1993 годзе на Беларусі. Праблемай становіцца ўсё: цэгла, вапна. Ні ад адной з пастаноў, як сказаў Дзмітрый Бубноўскі, іх болей не робіцца.

Шмат гадоў Мірскі замак лічыўся «помнікам архітэктуры рэспубліканскага значэння». Сёння ж абмяркоўваецца пытанне аб тым, каб уключыць яго ў спіс сусветнай прыроднай і культурнай спадчыны ЮНЕСКА. Між іншым, туды ўваходзяць Маскоўскі Крэмль, Ватыкан. Луўр. Матэрыялы па гэтаму пытанню былі накіраваны ў ЮНЕСКА Міністэрствам культуры яшчэ ў мінулым годзе. Пакуль Бюро камісіі па сусветнай спадчыне не рэкамендавала разглядаць гэта пытанне.

— Што б дало Мірскаму замку прызнанне ЮНЕСКА?

— Па-першае, само прызнанне. Наша культура мае патрэбу менавіта ў ім. Пра Мірскі замак неабходна ведаць спецыялістам. З іх дапамогай можна папулярызаваць беларускую культуру, архітэктуру ў прыватнасці. Па-другое, мы маглі б разлічваць на пэўную метадычную, арганізацыйную, матэрыяльную і іншую падтрымку ЮНЕСКА. Дарэчы, ЮНЕСКА ўжо прысылала летась на Беларусь для аказання метадычнай дапамогі рэстаўратарам свайго эксперта спадара Гельмута Штэльцэра, а таксама пералічыла на рахунак Мастацкага музея 5 тысяч амерыканскіх долараў. Мы ўдзячны гэтай арганізацыі за ўвагу.

Хочацца верыць, што Мірскі замак адрэстаўрыруюць. І ён стане сапраўдным гонарам нацыі. Толькі б не перашкаджалі. І толькі б хапіла цэглы і вапны. Для ўсіх, хто хоча і ў стане дапамагчы матэрыяльна аднаўленню замка, **— рахунак у Мінскбізнесбанку: 201070162 (для Дзяржаўнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь).**

**Алена СПАСЮК.**

## З АПОШНІХ ВЕРНІСАЖАЎ





**У нацыянальнай выставачнай галерэі экспанавалася выстаўка «Жыве Беларусь», прысвечаная 110-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа. Тэматычна яна не мае сувязі са славутымі пісьменнікамі. Самыя розныя мастакі прадстаўлены на ёй самымі рознымі творамі жывапісу, скульптуры, графікі, прыкладнога мастацтва.**

**Карціны авангардыстаў займаюць значнае месца. Напрыклад, «Сістэма, якая распалася» А. Пашкевіча. Кубічныя формы розных колераў і памераў хаатычна размешчаны на палатне і сапраўды ствараюць адчуванне развалу, разбуранасці. Яно так добра знаёма нам сёння і па нашаму ўнутранаму, і па знешняму жыццю. С. Грыневіч прапаноўвае некалькі карцін: «Бэзавая фантазія», «Чырвоная абстракцыя». У карцінах сапраўды ёсць настрой, які не пярэчыць іх назвам. Ну, а паколькі ў назвах ёсць слова «фантазія», то і ў настроі, і ў пачуццях можна быць вольным — глядзі на карціну і твары свае асабістыя асацыяцыі, фантазіруй. Карціна А. Цыркунова «Акорд» — музыка ў фарбах на палатне. А. Цыркуноў смела імправізуе на працягу свайго акорда. Не ведаю, ці можна сёння патрабаваць ад авангарда нечага новага ў тэхніцы, стылі... Аднак гэтага падсвядома не перастаеш чакаць ад сучасных авангардыстаў, нягледзячы на тое, што яны рэдка здзіўляюць, а часта пакідаюць цябе з адчуваннем, быццам такое ўжо бачыў калісьці. І часам вельмі хочацца знайсці радасць на карціне, адпачыць на традыцыйным, прафесійна зробленым творы. І такія працы ёсць на выстаўцы. Напрыклад, «Верасень», «Ручай» Сулкоўскага.**



**Мастак Л. Шчамялёў заўсёды пісаў перш-наперш злабадзённыя творы. Яны адлюстроўвалі і жыццё, і ідэалы краіны, яе праблемы. Тое ж і ў новым творы «Курапаты».**

**Шмат работ на выстаўцы філасофска-рэлігійнага характару. Звяртанне да рэлігіі — адметнасць нашага часу.**



**Менавіта ў ёй шукаюць людзі сёння суцяшэнне. Г. Вашчанка прадставіў тры творы на біблейскія сюжэты. Гэта «Святыня», «Нараджэнне», «Надзеі». Сярод скульптур вылучаеццца праца У. Ламейкі «Хлеб — плоць мая, віно — кроў мая». Незвычайныя работы ў Слабодчыкава з нізкі «Жіціе». У кампазіцыі «Шлях» — вузкая дарога аддзяляе аднаго чалавека ад другога. Невядома, што іх звязвае, і нават мужчыны гэта ці жанчыны. Аднак адчуванне адлегласці ў жыцці там, дзе яе быць не павінна, відавочнае. Як відавочнае жаданне зблізіцца і немагчымасць зрабіць гэта.**

**Цэлы цыкл прац вядомага скульптара Льва Гумілеўскага прысвечаны гістарычным асобам Беларусі — «Князь М. Радзівіл Сіротка», «Князь Юрый Нясвіжскі». Дарэчы, нядаўна Льву Гумілеўскаму было прысвоена званне народнага мастака Беларусі. Выстаўка «Жыве Беларусь» — гэта адлюстраванне творчага працэсу, а не паказ лепшых работ апошніх гадоў. Таму кожны значны ці проста цікавы твор на ёй — падзея і радасць.**

**Алена ВІКТАРАВА.**

**НА ЗДЫМКАХ: Л. ГУМІЛЕЎСКІ, «Князь Юрый Нясвіжскі»; Л. ШЧАМЯЛЁЎ. «Курапаты»; В. АЛЬШЭЎСКІ. «Які ўстае»; М. ГУЦІЕЎ. «Нарачанскае лета».**

*ПРЫКРА*

# НЕВЯДОМАЯ АЛІМПІЯДА

Наўрад ці можна сёння знайсці чалавека, які б не ведаў, што ў гэтым годзе ў Барселоне адбыліся Алімпійскія гульні, і наўрад ці нават аматары спорту ведаюць, што пасля іх адбыліся яшчэ адны — алімпійскія гульні інвалідаў. Дарэчы, нават сваякі старшыні Мінскага гарадскога праўлення Беларускага таварыства інвалідаў Уладзіміра Патапенкі пра гульні і пра тое, што ён атрымаў там залаты медаль, даведаліся выпадкова... І гэта пры тым, што 12 беларускіх спартсменаў, якія ўваходзілі ў аб'яднаную каманду краін Садружнасці, заваявалі 11 узнагарод, тры з якіх — залатыя.

— Калі гаварыць пра цяжкасці дарогі, складанасці на мытні, ды і ўвогуле, праблемы, якія абавязкова ўзнікаюць у інвалідаў, што адважыліся адправіцца ў падарожжа, то яны скончыліся ў той момант, калі мы перасяклі мяжу СНД,— расказваў Уладзімір Патапенка.— Жылі мы ў той жа Алімпійскай вёсцы, дзе да нас размяшчаліся здаровыя спартсмены, проста яна першапачаткова планавалася так, каб у ёй добра сябе адчувалі і інваліды. Маім асноўным сапернікам быў амерыканец, побач з якім пастаянна знаходзіліся трэнер і масажыст. Было відавочна, што падрыхтоўка замежных спартсменаў-інвалідаў знаходзіцца на належным узроўні. Я лічу, што паказаць такія высокія вынікі пры нашай падрыхтоўцы, а дакладней, пры амаль поўнай яе адсутнасці — гэта подзвіг.

Больш за ўсё мяне ўзрушала тое, як у Барселоне ставіліся да алімпіяды інвалідаў. Паверце, што ўвагі ёй надалі не менш, а нават больш, чым алімпіядзе здаровых спартсменаў. Падчас усіх спаборніцтваў на трыбунах не было свабоднага месца, а тыя, хто не змог трапіць у залу, калі змагаліся баскетбалісты і валейбалісты—калясачнікі, чакалі, калі нехта выйдзе, каб заняць свабоднае месца. А адна з дзяржаўных праграм іспанскага тэлебачання поўнасцю трансліравала ўсе нашы спаборніцтвы. І каб вы бачылі, як радаваліся гледачы, калі нехта ўстанаўліваў рэкорд! Самае галоўнае, што там у інвалідах не бачаць інвалідаў...

Слухаючы Уладзіміра Патапенку, я ўспомніла інфармацыю, надрукаваную ў 43-м нумары нашай газеты, у якой расказвалася пра ўрачысты вечар, наладжаны Прэзідыумам Вярхоўнага Савета Беларусі ў гонар пераможцаў Алімпійскіх гульняў. Перад спартсменамі выступіў Старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч, вялікай групе атлетаў і іх трэнераў былі ўручаны Ганаровыя граматы, Граматы Вярхоўнага Савета, памятныя падарункі.

—А ці былі запрошаны на гэтае свята алімпійцы-інваліды? — запытала я Уладзіміра Патапенку.

— Што вы, нам ніхто і не паведаміў, пра гэтую падзею мы даведаліся з газет. Напэўна, кіраўніцтва рэспублікі палічыла, што нашы ўзнагароды менш каштоўныя, чым медалі здаровых спартсменаў...

Я глыбока ўпэўнена, што інвалідаў праігнаравалі не з жадання абразіць іх і ненаўмысна. Пра іх проста зноў забыліся, не першы і, думаю, не апошні раз. Ну што ж, у адрозненне ад маладых і здаровых чэмпіёнаў, якія, калі ім нешта не спадабаецца тут, могуць грукнуць дзвярыма і адправіцца зарабляць, а то і жыць за мяжу, інваліды на сваіх калясках далёка не ад'едуць...

Але яшчэ не ўсё страчана: 11 снежня ў Палацы спорту адбудзецца Алімпійскі баль, не забыліся б пра інвалідаў на гэты раз.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**



Гонкі. Фота Віктара СТАВЕРА.

*З НАРОДНЫХ ПЕСЕНЬ*

## ЯК ТЫ МЯНЕ, МАТАНЬКА, АДДАСІ




**Як ты мяне, матанька, аддасі,**
**На чырвоным паперы напішы.**

**На чырвоным паперы напішы**
**І у новай каморанькы палажы.**

**Пойдзеш да каморанькі да й глянеш**
**І свае дзіцятачка спамянэш:**

**— Куды, мае дзіцятка, хадзіла,**
**І якую работу рабіла.**

**Ой, бурчэлі шпулечкі, як прала,**
**Звінела каморанька, як ткала,**

**Звінела каморанька, звінела,**
**Там, дзе мая дочанька сядзела.**

## А БРАТОК СЯСТРЫЦУ ДЫ ДАДОМУ КЛІЧА




**А браток сястрыцу ды дадому кліча,**
**Ой, рана, рана, ды дадому кліча:**

**— Да едзьма, сястрыца, да разам дадому,**
**Ой, рана, рана разам дадому.**

**Да будзе нас маці да вячэраць ждаці,**
**Ой, рана, рана, да вячэраць ждаці,**

**Будзе твае месечка за сталом гуляці,**
**Ой, рана, рана, за сталом гуляці,**

**Будзе твая ложачка сухая ляжаці,**
**Ой, рана, рана, сухая ляжаці!**

*ЗАПАВЕДНЫЯ МЯСЦІНЫ*

# БАГАТЫРЭВІЧЫ

**(Заканчэнне.**
**Пачатак на 5-й стар.).**

лю. Але знайшліся людзі, якія паведамілі самому каралю, што за дзівы творацца дзесьці ў Літоўскім краі, у глухой пушчы ля берага Нёмана. Быў тады каралём апошні з Ягелонаў, які меў два імя — Зыгмунт і Аўгуст. Заўзяты паляўнічы, ён у той час бавіўся паляваннем у сваіх Кнышынскіх лясах. Кароль здагадаўся, што ад Кнышына да таго месца, аб якім расказваюць людзі, не надта далёка, і пусціўся ў шлях».

Пабачыўшы ўладанні Яна і Цэцыліі, кароль нізка пакланіўся стогадовым старым.

«Тады кароль сказаў Яну:
— Ты, старац, па жаданню свайму застанешся безыменным і як нарадзіўся просталюдзінам, так і ў магілу сыдзеш, але за гэта, што ты праявіў такую багатырскую мужнасць, адняў гэтую зямлю ў пушчы і дзікіх звяроў і заваяваў яе не мячом і крывёю, а працай і потам і адкрыў яе нетры для людзей, прымножыўшы тым самым багацце айчыны, даруем дзецям тваім, унукам і праўнукам, да апошняга нашчадка і знішчэння твайго роду, прозвішча ад багатырства твайго прыводнае...

Дарую вам дваранскае дастоінства і загадваю называцца Багатырэвічамі, а ў гербе мець галаву зубра на жоўтым полі, бо ваш прашчур першым перамог зубра і пераўтварыў яго ўладанні ў гэтае пладавітае поле...»

Адбывалася гэта ў 1549 годзе, які і значыўся на старым помніку. І яшчэ расказваюць мясцовыя старажылы, на старым помніку быў зроблены надпіс «Ян і Цэцылія. 1549» і па-лацінску: «Памятай аб смерці».

Адзін з мясцовых энтузіястаў, які прыклаў шмат сіл для аднаўлення і захавання данага помніка, дырэктар Машталерскай школы Восіп Занеўскі расказаў мне, што пасля Вяліка Аййчыннай вайны ніякага помніка тут не было. Толькі людзі ўзгадвалі паданне і паказвалі месца, дзе ён раней стаяў. У 1966 годзе, калі Восіп Станіслававіч працаваў настаўнікам Міняваіцкай васьмігодкі, на тым месцы, дзе ўказвалі людзі, ён з братам Баляславам адкапаў камень, на якім папольску было высечана: «Ян і Цэцылія». Помнік быў адноўлены ўжо ў 70-х гадах, а адрэстаўрыраваны ў 1989 годзе скульптарам Алесем Ліпенем. Летась тут упершыню прайшло раённае свята, штогод каталікі ў адзін з дзён праводзяць богаслужэнне, але часцей за ўсё тут шматлюдна ад гасцей з суседняй Польшчы.

Зараз тут ачышчаны бераг Нёмана, выкапана сажалка, зроблены добры пад'езд да помніка Яну і Цэцыліі. Плануецца зрабіць сходкі да Нёмана, у перспектыве будзе адноўлены маёнтак пана ў Багатырэвічах. Асноўныя выдаткі па стварэнню запаведніка літаратурных герояў неўміручага твора польскай пісьменніцы ўзяў на сябе мясцовы калгас, яго старшыня Мікалай Панасевіч.

30 тысяч рублёў на абсталяванне славутай мясціны выдзеліла Гродзенскае культурна-асветнае таварыства імя Адама Міцкевіча. Ахвотна выходзяць мясцовыя жыхары на суботнікі.

Варта сказаць, што непадалёку ў Мінявічах нарадзіўся і жыў беларускі паэт Міхась Явар.

Чым яшчэ славутыя гэтыя мясціны?

Як падае абласная газета, тут знаходзіцца адзін з важнейшых помнікаў прыроды—геалагічнае абнажэнне Самастрэльнікі. Міжледніковы тарфянік схаваны непадалёку ад яру ля помніка Яну і Цэцыліі. У выніку даследаванняў тарфяніку атрымана самая багатая ў свеце міжледніковая флора, у складзе якой шмат раслін, што ўжо зніклі ў Еўропе.

**Пётр ЖЭБРАК.**

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку»
Тыраж 5 500 экз.
Індэкс 63854. Зак. 2067.
Падпісана да друку 16.11.1992.